*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
18
СТУДЗЕНЯ
1991 г.
№ 3 (3569)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)



# ЯНЫ ЗРАБІЛІ ВЫБАР. ДАПАМОЖАМ ІМ ВЫСТАЯЦЬ









## Літва, студзень

Раніцай 15 студзеня, прад'яўляючы міліцыянеру свой пропуск у Вярхоўны Савет Беларусі, я не ведаў яшчэ, што ўвечары таго ж дня буду мець іншы пропуск і хлопцы з Дэпартамента аховы краю, пільна ўзіраючыся мне ў твар, дазволяць увайсці ў парламент Літоўскай Рэспублікі.

Парламент працаваў. Тым днём дэпутаты, сярод іншага, заснавалі Фонд абароны Літоўскай Рэспублікі. Стварылі на чале з прэм'ер-міністрам Гедымінасам Вагнорусам Дзяржаўную камісію па расследаванні злачынстваў, здзейсненых Узброенымі Сіламі СССР у Літве 11—13 студзеня 1991 г. Адноўлены ордэн Крыжа Віціса Літоўскай Рэспублікі, якім узнагароджаны (пасмяротна) — «за выказаную гераічную смеласць і вытрымку пры абароне свабоды і незалежнасці» — ахвяры крывавай ночы 13 студзеня. Вось іх імёны: Ларэта Асанавічутэ, 1967 года нараджэння, Вітаўтас Вайткус, 1943, Дарус Гербутавічус, 1973, Віргінюс Друскіс, 1969, Альгімантас-Пятрас Кавалюкас, 1939, Альвідас Канапінскас, 1952, Цітас Масюліс, 1962, Альвідас Матулка, 1960, Відас Мацулявічус, 1966, Апалінарус-Ёзас Павілайціс, 1937, Ігнас Шымулёнас, 1973, Рымантас Юкнавічус, 1966, Раландас Янкаўскас, 1969.

Тым часам нашы дэпутаты горача спрачаліся, разглядаць ці не разглядаць становішча ў Літве; калі разглядаць, то калі і як... Ці ўсведамляем мы, наколькі недарэчнымі былі тыя спрэчкі, ці стала нам за іх сорамна перад суседняй Літвой?

Наўрад ці ёсць сёння штосьці больш непадобнае, чым плошча Леніна ў Мінску і плошча Незалежнасці ў Вільнюсе. Усе подступы да будынка літоўскага парламента блакіраваны барыкадамі на выпадак танкавай атакі. У цокальным паверсе — напагатове шпіталь. Ахоўваюць Вярхоўны Савет добраахвотнікі, пераважна моладзь, якая дала прысягу на вернасць Літоўскай Рэспублікі. Гэта — заўтрашні дзень Летувы. І як страшна, як жудасна ўсведамляць, што ён можа абарвацца сёння. Нягледзячы на барыкады, на выкапаныя траншэі, закладзеныя мяхамі з пяском вокны і іншыя сродкі саматужнай абароны, — пад магчымым націскам вайсковых часцей будынак утрымаць немагчыма. Гэта зразумела ўсім, у тым ліку і гэтым хлопцам, гатовым, зрэшты, стаць камікадзе...

(Працяг на стар. 2).

# ГЭТА СКАЛАНУЛА СВЕТ...

**7. 01, панядзелак.**

Павышаны цэны на харчовыя тавары ў 3—4 разы. Пачаліся мітынгі пратэсту ля будынка парламента.

**8.01, аўторак.**

Раніцай паведамлена аб накіраванні ў Вільню кантынгента парашутыстаў «дзеля забеспячэння прызыву на вайсковую службу». Вечарам — адстаўка ўрада К. Прунскене.

**9. 01, серада.**

Мітынгі.

**10. 01, чацвер.**

Абвешчана аб стварэнні ананімнага «камітэта нацыянальнага выратавання», які занепакоены будучым Літвы (праграма «Час»).

**11. 01, пятніца.**

Усесаюзнае радыё паведаміла, што КНВ «бярэ ўсю паўнату ўлады» ў Літве.

БМП атачылі тэлевежу ў Вільні (12 гадз. 22 мін.).

12 гадз. 30 мін.: захоплены Дом друку, паранены 3 чалавекі.

17 гадз. 45 мін.: захоплены дыспетчарскі пульт чыгуначнага вузла.

19 гадз.: захоплена міжгародняя тэлефонная станцыя.

**12.01, субота.**

Часці Савецкай Арміі захапілі будынкі паліцэйскай акадэміі, школы міліцыі. На прэс-канферэнцыі ваенных абвешчана аб узяцці пад ахову маёмасці КПСС і Савецкай Арміі.

**13.01, нядзеля.**

Каля 1 гадз. СМІ Літвы перадалі заяву Б. Ельцына з асуджэннем дзеянняў ваенных.

Каля 2 гадз. захоплена тэлевежа, затым будынак Дзяржтэлерадыё Літвы і тэлеграф. Забіта 13 мірных жыхароў і адзін вайсковец. Паранена больш за 160 чалавек. Прапала без вестак каля 50 чалавек.

Каля 3 гадз. прынята сумесная заява кіраўнікоў Літвы, Латвіі, Эстоніі і РСФСР з асуджэннем ваенных рэпрэсій у Вільні.

У Літву накіравана дэлегацыя Савета Федэрацыі на чале з М. Дземянцеем.

Удзень ваенныя захапілі Вільнюскі тэхнічны вузел сувязі.

Увечары Д. Буш выступіў з асуджэннем «акцый у Літве».

**14. 01, панядзелак.**

Раніцай М. Гарбачоў паведаміў, што прычыны гібелі людзей заключающца... у шляху Літвы да суверэнітэту. Міністры ўнутраных спраў і абароны ў ВС СССР заявілі аб канстытуцыйнасці дзеянняў савецкіх венных у Вільні. Дом друку і тэлевежа — у руках ваенных.

У Літве — жалоба.

**15.01, аўторак.**

Грамадзянскае развітанне з ахвярамі трагедыі.

Прадстаўнікі Вярхоўнага Савета Літвы дапушчаны на першы паверх Дома друку.

У Вільню накіравалася дэлегацыя Вярхоўнага Савета БССР на чале з Н. Гілевічам.

**16. 01, серада.**

Імша ў Катэдры і другіх святынях, пахаванне загінуўшых на могілках Антакальніс.

# НАРОД, З'ЯДНАНЫ ПРАГАЙ ВОЛІ...

Гадоў 10 таму ў СССР быў забаронены альбом групы Pink Floyd за словы: «Брэжнеў узяў Афганістан, Бегін узяў Бейрут». Зараз альбом дазволены, але, відавочна, у савецкай прапагандзе мала што змянілася з застойных часоў, і праўду пра сённяшнія падзеі ў Вільні афіцыйныя савецкія крыніцы прапануюць нам у аддаленай перспектыве, а пакуль...

Мы чыталі, бачылі і чулі, як асвятляе летувіскія падзеі ТАСС і праграма «Время». Маўляў, незадаволены сваёй уладай народ патрабуе ў Гарбачова ваеннага перавароту. «Молодчики из Саюдиса, одурманенные националистической пропагандой люди» і г. д.

Усё гэта грубая, цынічная дэзінфармацыя.

У гэтыя дні я хадзіў па вуліцах Вільні і бачыў толькі адзін народ, з'яднаны адным жаданнем — прагаю волі. Разам з Алегам Мінкіным і віленскімі беларусамі мы стаялі на пляцы перад будынкам парламента і адчувалі толькі адзін агульны настрой — прагу волі. Тры дні я шукаў «незадаволены сваёй уладай народ», шукаў «ініцыятыву знізу», якая прывяла да процістаяння. І не знайшоў.

У ноч на 13 студзеня ваенныя атакавалі віленскую тэлевізійную вежу. Людзі, якія сабраліся тут, спрабавалі рукамі запыніць танкі. Двое загінулі пад гусеніцамі, яшчэ адзінаццаць чалавек — ад куляў дэсантнікаў. Сто восем чалавек цяжка паранены.

Кажуць, ваеннымі камандаваў п'яны палкоўнік. Вайскоўца, які адмовіўся страляць у людзей, камандзіры забілі на месцы, пусціўшы яму кулю ў спіну. Супольная экспертыза Міністэрства аховы здароўя Летувы і ваенных пацвердзіла, што куля належыць дэсантнікам. Яшчэ 15 салдат уцяклі з часці. Вярхоўны Савет Летувы папрасіў людзей не лічыць іх за ворагаў.

Усю ноч ішла страляніна халастымі снарадамі ля будынкаў Дзяржкамітэта па тэлебачанні і радыё. Я бачыў вокны без шыбаў у навакольных дамах. Так пачалася ў Вільні Крывавая Нядзеля...

Да 16.00 вайскоўцы загадалі «ачысціць» будынак парламента. На плошчы перад Вярхоўным Саветам сабралася 300 тысяч чалавек. У 14.00 па тунелі пад плошчай прайшла калона танкаў і бэтээраў. Летувіскія, польскія, украінскія, грузінскія, расейскія сцягі луналі над адзіным у сваім жаданні волі народам. Былі і нашы — бел-чырвона-белыя. «Ле-ту-ва» — скандзіравалі людзі. А пасля, убачыўшы нас, 300 тысяч галасоў натхнёна скандзіравалі: «Бал-та-ру-сія».

Бяруся сцвярджаць, што ў гэты час у гэтым месцы было самае лепшае, самае чыстае месца на Зямлі. Звычайна дабро і зло мяшаюцца ў жыцці. Тут яны былі абсалютна кантрастна падзеленыя. З аднаго боку — ваеншчына, якая хавае замутнёныя чалавечай крывёй вочы, груды жалеза — бранятэхніка. З другога боку— людзі. Проста людзі без розніцы нацыянальнасці, якія не думаюць пра маё-тваё. Людзі, адзінай агульнай Бацькаўшчынай якіх стала Свабода.

І мы былі на баку дабра, і мы адчулі ні з чым не параўнальную ягоную прыцягальную сілу. Проста немагчыма было пакінуць гэты пляц.

Дзесяткі людзей падыходзілі да нас, успаміналі супольную гісторыю беларускага і летувіскага народаў, пыталіся, чаго можна чакаць ад прысланага Масквою Дземянцея, перакладалі свежую інфармацыю, якая ішла з рэпрадуктараў, частавалі гарачай кавай, бутэрбродамі, раздавалі абразкі заступніцы Летувы Дзевы-Марыі і дзякавалі, дзякавалі бясконца. Маўляў, беларусы таксама за свабоду.

Тады мне стала зразумела, што кожны, хто «па палітычных прычынах» не прыйшоў на гэты пляц сёння, — апынуўся на другім баку, на баку зла. Трэцяга боку не было.

Групка мясцовай філіі КПСС — Буракявічус, Швед, Ермалавічус — вось, аказалася, і ўвесь незадаволены законнай уладай народ Летувы. Астатнія, «единственники», так нідзе і не паказаліся за гэтыя дні.

Каб М. Гарбачоў прызнаў, што гэта так, каб ён сапраўды кіраваўся агульначалавечымі інтарэсамі, а не інтарэсамі





# ЯНЫ ЗРАБІЛІ ВЫБАР. ДАПАМОЖАМ ІМ ВЫСТАЯЦЬ

(Пачатак на стар. 1).

Вакол тэлевізійнай вежы, што ўзвышаецца над Вільнюсам, — танкі. Ужо не тыя, цяжкія, што ішлі на штурм тэлецэнтра ўначы 13-га, а лёгкія, дэсантныя. Пераможна лунае чырвоны сцяг гвардзейскай часці з выявай Леніна. Знак паспяхова праведзенай аперацыі...

Бронетранспарцёрамі загароджаны ўваход і ў будынак Дзяржтэлерадыё Літвы. Гарыць вогнішча, ля якога стаяць узброеныя, у бронежылетах вайскоўцы. На процілеглым баку вуліцы—віленцы: са свечкамі ў руках, моўчкі глядзяць на разгромлены будынак, на бронетранспарцёры, на салдат...

Супрацьстаянне. Важна разумець яго сутнасць. Гэта не супрацьстаянне ў прадчуванні грамадзянскай вайны. Гэта супрацьстаянне грамадзян, народа і — ваеннай машыны. Людзей, апантаных ідэяй свабоды, і — закансерваванага да пары да часу, але, як высвятляецца, у рабочым стане ГУЛАГа. Супрацьстаянне законнай, дэмакратычна абранай улады і — купкі путчыстаў, да паслуг якіх чамусьці даюцца танкі.

Мы можам колькі заўгодна спрачацца, абмяркоўваючы перыпетыі палітычнай барацьбы ў Літве. Але пры ўсім плюралізме ёсць рэчы адназначныя — як жыццё і як смерць. Стрэл, зроблены ва ўгоду чыіхсьці палітычных амбіцый, — злачынства. Жахлівае ўзрушэнне ад падзей у Тбілісі, Баку, Вільнюсе павінна нарэшце адчаканіцца ў непарушны імператыў. Інакш нам ніколі не спыніць хвалі беззаконня, дыктатура растопча парасткі дэмакратыі, а глыбіня нашага маральнага падзення будзе катастрафічнай.

16 студзеня Літва праводзіла ў апошні шлях ахвяр трагедыі — як нацыянальных герояў. Не ведаю, ці здолею калі-небудзь знайсці словы, адпаведныя велічы жалобнай цырымоніі. Народ, які сабраўся тут, ужо ніколі не стане на калені.

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**
Фота ЭЛЬТА
і А. ГІРДЗЮШАСА
(«Летувос айдас»).







**КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР.** 17 студзеня на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі абмеркавана сітуацыя ў Літоўскай Рэспубліцы. У прынятай заяве выказана шчырае спачуванне сем'ям загінуўшых і ўсяму народу Літвы з выпадку трагічных падзей 13 студзеня, рашуча асуджана прымяненне войскаў супраць мірнага насельніцтва.

**Сёння ўжо відавочна ўсім (акрамя магікан, накшталт Старадубцава), што «рэарганізацыйны перыяд перабудовы і пераводу сельскай гаспадаркі на новыя калгасныя рэйкі» з мэтаю пабудаваць «светлую будучыню» на вёсцы зведаў сакрушальнае фіяска. «Бурныя працяглыя апладысменты», у якіх патанула пахвальба Сталіна на XVII з'ездзе ВКП(б) аб тым, што «сацыялістычны ўклад з'яўляецца адзіна пануючай і адзіна камандуючай сілай ва ўсёй народнай гаспадарцы», змяніліся на XXVIII з'ездзе КПСС трывожным крыкам: «Як накарміць краіну!»**

**Відавочна і тое, што ніякімі звышукладаннямі ў сельскую гаспадарку праблемы гэтай не вырашыць: калгасы і саўгасы — чорная дзіра, здольная адно паглынаць. За апошнія 25 гадоў толькі прамыя капітальныя ўкладанні ў аграрны сектар склалі астранамічную суму — 600 мільярдаў рублёў. Вынік — пустыя паліцы магазінаў і міласціна з «загніваючага капіталістычнага Захаду». Прадукцыйнасць працы ў калгасах і саўгасах такая, што на кожны ўкладзены ў іх рубель мы маем апошнім часам страты памерам 80 капеек. Далей, як кажуць, ехаць няма куды. Выйсце адно: патрэбны радыкальныя змены ў самім характары вытворчых адносін на вёсцы. Але якія! Мне падаецца, што экскурс у гісторыю зямельных адносін нашай краіны будзе ў дадзеным выпадку не толькі не лішні, але і ў вышэйшай ступені павучальны.**

**Валянцін АКУЛАЎ,**
доктар філасофскіх навук,
прафесар

# ЗЯМЛЯ і ВОЛЯ

НАСУПЕРАК ДУМЦЫ паасобных даследчыкаў зараз можна лічыць цвёрда даказаным, што эканамічную аснову Кіеўскай Русі складала земляробства. Шматлікія і разнастайныя крыніцы сведчаць аб гэтым надзвычай красамоўна. Так, напрыклад, Іпацьеўскі летапіс гаворыць, што ў час перамоў з драўлянамі княгіня Вольга загадала перадаць жыхарам Карасценя: «Чего хощете доседети? а вси ваши городи передашеся мне, и ялися па дань, и делают нивы своя и землю свою, а вы хощете голодом измерети». Аўтар «Слова аб палку Ігаравым» з горыччу прыгадвае, што «тады на рускай зямлі рэдка крычалі ратаі, але затое часта каркалі груганы». Галоўным богам дахрысціянскай Русі быў Даж-бог — бог урадлівасці, а старажытнарускія пагаворкі, звязаныя з працоўнай дзейнасцю, адлюстроўваюць галоўным чынам земляробчую працу.

Але калі гэта так, калі асноўным заняткам жыхароў Кіеўскай Русі было земляробства, дык заканамерна спытаць: у чыёй уласнасці была зямля, якую апрацоўвалі смерды? Ёсць усе падставы лічыць, што яна не была ўласнасцю князя. Пра гэта сведчыць хоць бы тое, што пераважную частку даніны, якую збіраў князь, складалі прадукты палявання і лясных промыслаў. Праўда, у летапісах XII—XIII стагоддзяў мы сустракаем згадкі і пра княскія землі. Аднак, як слушна заўважае В. Ключэўскі, «пры тадышняй рухомасці князёў гэтыя нерухомыя палацавыя багацці не былі значнымі, не маглі стаць галоўным грунтам княскай гаспадаркі. Свой двор, сваю дружыну князь утрымліваў пераважна на тое, што атрымліваў як кіраўнік і вайсковы ахоўнік зямлі, а не як прыватны ўласнік-гаспадар». Па гэтай прычыне князь не мог, натуральна, узнагароджваць зямлёю і сваіх служылых людзей, сваю дружыну. Вось чаму Кіеўская Русь не ведала маянтковага землеўладання.

З заняпадам Кіеўскай Русі, які быў выкліканы татара-мангольскім нашэсцем, пачынаецца імклівы працэс міграцыі насельніцтва з берагоў Дняпра на паўночны ўсход, у міжрэчча Акі і верхняй Волгі. Тут зямля была кепская. Цэлыя пакаленні перасяленцаў, гаворыць В. Ключэўскі, вымушаны былі «падсякаць і паліць лес, працаваць сахою і вазіць гной, каб стварыць на верхняволжскім суглінку прыдатную глебу для надзейнага аседлага земляробства». Земляробу даводзілася тут працаваць больш, а атрымліваць са сваёй працы менш. Утрыманне князя і яго дружыны стала паглынаць значную частку вынікаў працы селяніна, а гэта, у сваю чаргу, самым істотным чынам пачынае адбівацца на характары зямельных адносін. З «вайсковага ахоўніка зямлі» князь усё больш ператвараецца ў яе поўнаўладнага гаспадара, а ягоныя дружыннікі ў «вояў», якія за сваю службу атрымліваюць ад князя надзелы зямлі. Маянтковае ўладанне, якога фактычна не ведала Кіеўская Русь, робіцца асновай эканамічнага жыцця Русі Залескай. Яшчэ раней гэты працэс пачаўся на паўднёвым захадзе — у Галіцкай зямлі, а таксама ў Польшчы. Была, аднак, прынцыповая розніца ў адносінах вялікага князя і служылага саслоўя ў Маскоўскім княстве і ў той жа Польшчы. У Польшчы ўжо Кашыцкі прывілей (1373 г.) зрабіў спадчыннымі маёнткі шляхты. Чэрвіньскі прывілей (1422 г.) забараніў каралю без суда канфіскаваць шляхецкую маёмасць. Так званая канстытуцыя «Nihil novi» сцвердзіла парадак, пры якім кароль не мог абмежаваць асабістыя правы шляхты без згоды сейма. Тое ж самае бачым мы і ў Вялікім княстве Літоўскім, дзе Берасцейскі сейм (1566 г.) даў шляхце права поўнага распараджэння сваёй маёмасцю. Палітычнае значэнне гэтага акта заключалася ў тым, як слушна адзначаў І. Лапо, што ён «ператвараў падданых, уладальнікаў зямлі, вярхоўным уласнікам якой быў вялікі князь, у свабодны народ, — ва ўласнікаў сваёй зямлі, сваіх «аселасцей».

Зусім іншую карціну мы назіраем у Залескай Русі. Палітыка тутэйшых князёў была скіравана на тое, каб ператварыць усё насельніцтва краіны ў халопаў цара. Але для гэтага існаваў адзіны шлях: пазбавіць усё насельніцтва права ўласнасці на зямлю. Гэта, урэшце, і ўдалося зрабіць вялікім маскоўскім князям, якія аб'ядналі паўночна-ўсходнюю Русь. Рускаму служыламу саслоўю так і не ўдалося дамагчыся таго, чаго дамаглася польская і літоўская шляхта — стаць уласнікамі зямлі. Больш за тое, ліквідуючы ўдзельныя зямельныя адносіны і замяняючы іх маянтковымі, маскоўскія вялікія князі ставілі ўсю рускую знаць у поўную залежнасць ад вялікакняскай волі. Яна — толькі ўладальніца маёмасці, якая ў любы момант магла быць «адпісана на гасудара». Флетчэр, які наведаў Масковію, са здзіўленнем заўважае ў сваіх запісках, што «і дваране, і прасталюдзіны ў дачыненні да сваёй маёмасці ёсць не што іншае, як зберагальнікі царскіх даходаў, бо ўсё нажытае імі рана ці позна пераходзіць у царскія куфры».

Але, вядома ж, асноўны цяжар «гасударавай рукі» лёг на тых, хто з'яўляўся сапраўдным уласнікам зямлі. Як ужо адзначалася, у Кіеўскай Русі князь не быў яе ўласнікам. Уласнікам быў той, хто яе ўрабляў, — смерд. Такое становішча спачатку захоўваецца і на паўночным усходзе. Аднак з цягам часу смерды тут з уласнікаў ператвараюцца толькі ва ўладальнікаў, а князі з абаронцаў — ва ўласнікаў. «Тая зямля вялікага князя, а майго ўладання», — так, па сведчанні В. Ключэўскага, разумелі сутнасць эканамічных адносін рускія сяляне ўжо ў XIV стагоддзі. Наступным крокам на гэтым шляху было ператварэнне вольнага ўладальніка зямлі ў прымацаванага да зямлі дзяржаўнага раба. Той факт, што селянін лічыўся прыгонным памешчыка, у прынцыпе нічога не мяняла, бо сам памешчык быў, у сваю чаргу, прыгонным гасудара.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Цяжар прыгоннага права ў Расіі ўзмацняўся наяўнасцю таго інстытута, які атрымаў назву сельскай абшчыны і які па сённяшні дзень выклікае настальгічны смутак у «рускіх патрыётаў» і «почвенников». Наяўнасць сельскай абшчыны з яе перыядычным перадзелам зямельнага фонду зусім не азначала, што абшчынная зямля была ўласнасцю абшчыны. Сутнасць у тым, што і зямля, і сама абшчына з'яўляліся ўласнасцю дзяржавы. Прамыя выгоды абшчыннага землекарыстання добра разумела царская ўлада. Гэта відаць хоць бы з указа ад 19 мая 1769 года. Каментуючы гэты ўказ, гісторык С. Заблоцкі-Дзесятоўскі слушна гаворыць, што «ён знішчыў асабістую адказнасць плацельшчыка за падатак, увёў кругавую паруку, ператварыў сельскія вольныя абшчыны ў падаткавыя адзінкі, а падаткавай сістэме надаў значэнне пастаяннай кантрыбуцыі». Важна адзначыць пры гэтым, што чалавек сялянскага саслоўя не толькі меў права валодаць зямлёю. Ён абавязаны быў ёю валодаць, пра што ў адным з царскіх указаў гаварылася адназначна.

Такім чынам, важнейшай асаблівасцю рускага грамадскага ладу маскоўскага перыяду з'яўляецца поўнае падпарадкаванне асобы інтарэсам дзяржавы. Апошняе дасягаецца тым, што дзяржава ў асобе свайго гасудара канцэнтруе ў сваіх руках асноўную вытворчую сілу — зямлю, ператвараючы тым самым усё насельніцтва краіны ва «ўсепакорлівых рабоў» і «гасударавых сірот».

**У чым жа прычына таго, што развіццё рускага грамадскага жыцця пайшло ў многім іншым шляхам, чым у краінах Заходняй Еўропы і нават у іншых славянскіх краінах Усходняй Еўропы, такіх, як, скажам, Польшча ці Вялікае княства Літоўскае? Наіўна было б, як гэта спрабуе сёй-той рабіць, шукаць прычыну ў нейкіх адметнасцях рускага нацыянальнага характару, у нейкай асаблівай «ментальнасці» рускага народа. Гэта тое самае, калі б сказаць, што «дэфармацыі сацыялізму» выкліканы паранояй Сталіна. Прычына тут больш важная, хоць і больш празаічная. І яна даўно названа. Вось што пісаў, напрыклад, гісторык Н. Паўлаў-Сільванскі: «Вонкавыя акалічнасці жыцця Маскоўскай Русі, яе ўпартая барацьба за існаванне з усходнімі і заходнімі суседзямі вымагала надзвычайнага напружання народных сіл. У грамадстве развіта было ўсведамленне пра найпершы абавязак кожнага падданага служыць дзяржаве па меры сіл і ахвяраваць сабою дзеля абароны рускай зямлі і праваслаўнай хрысціянскай веры. Служылы чалавек абавязаны несці ратную службу на працягу ўсяго свайго жыцця і «біцца да смерці з нагайцамі ці нямецкімі людзьмі, не шкадуючы жыцця». Пасадскія людзі і валасныя сяляне павінны ахвяраваць сваім дабрабытам дзеля дапамогі ратным людзям. Усе класы насельніцтва прымацаваны да службы альбо цягла, каб «кожны ў сваім прыгонным статусе і ў царскім загадзе стаяў цвёрда непарушна». Мне гэтыя развагі вядомага гісторыка падаюцца больш слушнымі, чым сумніцельныя экскурсы ў галіну антрапалогіі і этналогіі. Менавіта жорсткая цэнтралізацыя ўсяго грамадскага жыцця дазволіла рускаму народу зберагчы сваю нацыянальную і дзяржаўную незалежнасць. Цана, праўда, аказалася невымерна высокая, бо, аднойчы ўзнікнуўшы, такая палітыка-эканамічная сістэма стала, у сваю чаргу, аказваць адваротнае ўздзеянне, у тым ліку і негатыўнае, на грамадскія працэсы, пакуль, урэшце, не ўступіла ў супярэчнасць з патрэбамі далейшага развіцця і самога рускага грамадства, і тых народаў, якія аб'яднала Расійская імперыя.**

Вернемся, аднак, да нашага прадмета. Вышэй ужо гаварылася, што маянтковае валоданне зямлёй — гэта плата за вайсковую службу гасудару. Пры пераважна натуральнай гаспадарцы Маскоўскай Русі, слабым развіцці таварна-грашовых адносін такая плата, што відавочна, была адзіна магчымай. Але пачынаючы ўжо з XVII стагоддзя ў Расіі фарміруецца новы тып войска. Да канца стагоддзя гэтыя так званыя «палкі іншаземнага ладу» амаль цалкам выцеснілі дваранскае апалчэнне. Гэтая акалічнасць карэнным чынам мяняе характар зямельных адносін, бо цяпер вайсковая служба аплачваецца не ў выглядзе маянтковага ўладання, а ў выглядзе грашовага жалавання. Пётр І наогул спыніў раздачу маёнткаў. Здавалася б, тым самым дваранства павінна было б страціць права валодання зямлёй, і зямля павінна была б вернута таму, хто быў яе сапраўдным гаспадаром — сялянам. Так, між іншым, і разумелі справу самі сяляне. У іх разуменні памешчыцкае землекарыстанне страціла ўсялякі разумны сэнс. Аднак зямля засталася ў руках памешчыкаў з той толькі істотнай розніцай, што з уладальнікаў зямлі яны ператварыліся ў яе **ўласнікаў.** Тым самым быў пакладзены пачатак распрыгоненню дваранства. Аднак гэты працэс аніяк не закрануў сялян. Наадварот, ён суправаджаўся яшчэ большым іх закабаленнем.

Аграрная рэформа 1861 года, ліквідаваўшы прыгонную залежнасць сялян ад памешчыкаў, пакінула, аднак, амаль нязменнай прыгонніцкую форму сялянскага землекарыстання — сельскую абшчыну. Селянін, як і раней, застаўся толькі ўладальнікам зямлі, але не яе ўласнікам. Ён не мог свой надзел ні прадаць, ні перадаць па спадчыне. Захавалася і сістэма рэгулярных перадзелаў. Абшчына — вось хто стаў і суб'ектам уласнасці, і аб'ектам падаткаабкладання. Меў рацыю Г. Пляханаў, адзначыўшы, што царскі ўрад збярог абшчыну зусім не з прычыны схільнасці сялян да абшчыннага землекарыстання, а выключна «ў інтарэсах фіску».

**Многія непрадузятыя даследчыкі рускай сельскай абшчыны адзначалі яе кансерватызм, хранічную няздольнасць да развіцця. На нежыццёвасць абшчыннага землекарыстання звярнуў увагу і аграном-практык барон Гекстгаўзен, які спецыяльна прыехаў з Германіі для азнаямлення з вопытам рускай сельскай абшчыны. Ён адзначаў у сваіх нататках: будучы не ўласнікам, а ўсяго толькі больш ці менш пастаянным уладальнікам абшчыннай зямлі, селянін аніяк не зацікаўлены ў тым, каб укладваць у яе капіталы: таму апрацоўка глебы не ўдасканальваецца, і зямля асуджаецца на спусташэнне і дэградацыю.**

**Не, не была сельская абшчына шчаслівай аркадыяй. Уся яе паслярэформенная гісторыя сведчыць, што яна літаральна кішыць антыганізмамі. Не маючы магчымасці спыняцца на гэтым падрабязна, скажу толькі, што менавіта аб'ектыўны працэс разлажэння сельскай абшчыны, эканамічная неэфектыўнасць абшчыннага землекарыстання вымусілі П. Сталыпіна пайсці на новую аграрную рэформу, якая павінна была дарабіць тое, перад чым спынілася рэформа 1861 года — канчаткова распрыгоніць сялян, цяпер ужо ад абшчыны, ператварыць іх у прыватных уласнікаў зямлі.**

У нашай афіцыёзнай гістарыяграфіі сталыпінская

**(Працяг на стар. 12).**

Шмат помнікаў мінуўшчыны захавала гісторыя. Сярод іх і словы, што апавядаюць нам аб многім. Так, літоўскае слова **дайліде** (параўнайце **дойлід**) у перакладзе абазначае цясляр. **Пагарба** — так гучыць па-літоўску слова гонар, яно вельмі блізкае да беларускага слова **пагарда**. Думаю, што і слова **панегірык** звязана з літоўскай мовай, дзе ёсць дзеяслоў **пагірці** — пахваліць, які і па сэнсе і па гучанні блізкі да слова **панегірык** — празмернае ўхваленне. Слову **маніць** у літоўскай і беларускай мовах ёсць сінонім: **маклявоті** — махляваць. Агульнымі ў нашых мовах з'яўляюцца словы **поліс** — палі (моста), **блогай** — блага, **цывілініс** — цывільны, **бурбулас** — бурбалкі. Цікавае слова ў літоўскай мове **ціпці** — пішчаць, гэты корань мы знаходзім у рускім слове «цыплёнок».

Можа, варта правесці яшчэ адну паралель: **вір** — вадаварот, глыбокае месца на рацэ, гэтае слова разумееш і адчуваеш глыбей, калі параўнаеш з літоўскім **вірці** — кіпець. Сапраўды, вір нагадвае кіпенне вады. Літоўскае **леле** і беларускае **лялька** маюць адзін корань. Аднолькава ў нашых мовах гучаць словы, **різіка** — рызыка, **шалікас** — шалік, **повас** — пава, **поседіс** — пасяджэнне, **мурметі** — мармытаць (руск. «бормотать». Неяк ужо надта па-беларуску ўспрымаецца ўзнікненне літоўскіх слоў **носіне** — насоўка, **касдіен** (кас — што) — штодзень, **нікті** — знікаць... Яшчэ: **цікаваць** адпавядае літоўскаму **цікоці**—сачыць, падпільноўваць, тата —літоўскаму **тете**. Глыбей, чым мы, беларусы, літоўцы растлумачаць і слова **кірмаш**. Гэта не проста месца, дзе можна купіць і прадаць, гэта падзея звязана са святам, з фэстам. Значыць кірмаш —гэта заўсёды свята, якое часта адбывалася каля касцёла, царквы ў свята дзень.

Шмат агульнага ў беларускай і літоўскай мовах, што сведчыць аб агульнасці нашай гісторыі. Чаму ж зараз беларусы не вучацца ў суседзяў-братоў шанаваць роднае слова? Чаму ў Літве людзі здзіўляюцца, што ў нас мацяркі не вучаць сваіх дзяцей гаварыць па-беларуску? Чаму? Можа, таму, што ў нас няма тых сапраўдных і глыбокіх сувязей з літоўскім народам, якія былі ў даўно мінулыя часы?

**Т. ТРАФІМЧЫК,**
**настаўніца беларускай мовы і літаратуры.**
г. Слонім.

---

найменне бацькі ўзнікла і ў іншых мовах: балгарск. і сербск. **тато**, руск. **тятя**, літ. **тете**, латышск. **тээта**, ст. грэчаск. **тэтта**, або ў некаторых мовах у форме **атта**.

Разважанні аўтара ліста наконт **шворна** набліжаюцца да фантастычных, таму што беларускае слова, як і ўкраінск. **свірень**, руск. **ш(к)ворень**, славацк. **свор**, польск. **свожэнь**, узыходзяць да праславянск. **съворънъ**, якое генетычна звязана са словам **вярцець**.

Многа беларускіх слоў, якія аўтар лічыць роднаснымі з літоўскімі, у сапраўднасці з'яўляюцца запазычанымі з розных моў (і ў беларускай, і ў літоўскай). Так, **варштат** прыйшло да нас праз польскую мову з нямецкай **веркштат**, **клін** праз польскую з сярэдняверхненямецкага **кумін**; **агурок** са ст. грэчаск. **агурос**; **бульба** з заходнеславянскіх моў, а да іх з нямец. **больле** (клубень, цыбуліна), якое з лацінск. **бульбіс**; **бізун** — з польскай; **кілім** праз украінскую мову з турэцкай; **смак** праз польскую мову — з нямецкай, параўн. **шмэкн** (спрабаваць).

Бел. **перл** прыйшло з заходнееўрапейскіх моў: французск. **пэрль**, італьянск. **пэрля**, якія з лацінск. **піруля**, а гэта з лацінск. **пілюля** (шарык); **скрыня** паходзяць з заходнеславянскіх моў, а ў іх — з лацінскай **скрініум**; **дзіда** не мае нічога агульнага з літоўск. **дідіс** (вялікі, высокі), таму што яно было запазычана са старапольскай, дзе было **дзіда** ў XVII ст.; туды слова прыйшло са ст. украінск. **джида**, а ў апошнюю мову — з турэцкай **джіда**.

Слова **кара** — праславянскае і генетычна звязваецца этымалогіяй не з літоўск. **карас** (вайна), а з **коріті** (лаяць, дакараць) і ўзнікла за тысячагоддзі раней да таго, як беларусы ваявалі з крыжакамі ці з татарамі.

З польскай мовы былі запазычаны словы **цывільны, папера, рызыка, шалік, лялька, пава, кірмаш**. Бел. **кішэня** не з'яўляецца роднасным з літоўск. **кішті** (сунуць), а са словам **кішка**. Слова **дзяга** — не адзінкавае, ёсць яшчэ руск. **дяга** (скураны рамень), украінск-палеск. **дяг** (палоска лыка), славенск. **дэга** (рамень) — усе яны ўзыходзяць да праславянскага **дэнгті** (пакрываць), а не да літоўскага **дягті** (гарэць).

Цікавым здаецца разважанне аўтара ліста аб Нямізе, хаця ёсць падставы аднесці яго да т. зв. народнай этымалогіі. Некаторыя гідронімы (назвы рэк) бывае вельмі цяжка этымалагізаваць, таму што яны могуць быць вельмі старымі назвамі, узнікшымі нават яшчэ да паяўлення тут балцкіх плямёнаў у насельніцтва, якое славісты-моваведы называюць праеўрапейскім.

Зразумела, што для таго каб зрабіць правільную этымалогію, вызначыць этымон даследуемага слова, трэба, апрача іншага, мець пад рукой у якасці інструмента як мага больш поўны лексікаграфічны матэрыял — славянскі і неславянскі, што не можа сабе дазволіць з-за аб'ектыўных прычын нават жыхар абласнога горада. Таму на першых парах аматары-этымолагі могуць карыстацца гатовымі этымалагічнымі слоўнікамі. У даны перыяд можна выкарыстоўваць «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы», якога ўжо выдадзена 6 тамоў — да сярэдзіны літары Н; этымалагічныя слоўнікі ўкраінскай мовы (тамы 1—3, А.-М) і рускай мовы М. Фасмера (тт. 1 — 4) ці пад рэдакцыяй Н. Шанскага (1—2, А-К).

На жаль, практыка паказвае, што, з аднаго боку, тыражы беларускіх выданняў па мовазнаўстве вельмі малыя, а, з другога боку, інтэлігенцыя рэспублікі «грэбуе» выданнямі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР, не хоча набываць такія неабходныя кнігі, як граматыкі і слоўнікі сваёй мовы, патрэбныя кожны дзень.

У заключэнне можна ўказаць і на неабходнасць выкладання гісторыі Беларусі, гісторыі славян усім будучым настаўнікам, каб яны пасля заканчэння ВНУ шырэй глядзелі на навакольны свет і вучылі гэтаму вучняў.

**І. ЛУЧЫЦ-ФЕДАРЭЦ,**
**ст. навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР.**

* Усе словы, апрача беларускіх, украінскіх і рускіх, даюцца ў транслітэрацыі.

---

**ПОЗІРК У МІНУЛАЕ**

# ЦІ ПАЧУЕМ ЯГО ГОЛАС?



Зараз, амаль праз 70 год, да нас вяртаецца паэтычная спадчына К. Сваяка. Але ж мала хто ведае, што гэта звычайная сялянская сям'я дала Беларусі яшчэ аднаго гарачага патрыёта, кампазітара, публіцыста, чый жыццёвы шлях у значнай меры фарміраваўся пад уплывам брата — Альбіна Стэповіча.

«У пацёмках часта блукае наша інтэлігенцыя. Асабліва цяпер. Нэгаваць лёгка, але пазітыўнае ці што творым? Нэгаваць усё — гэта найлепшае апраўданне нашай бяздзейнасці!»—часта любіў паўтараць Альбін.

Нарадзіўся Альбін, як і ўсе яго браты і сёстры, у вёсцы Барані, 18 сакавіка 1894 г. (Узята з газеты «Бел. Крыніца», але малодшы брат Бэрнась сведчыць — у 1892 г.). Па заканчэнні пачатковай школы паступае вучыцца ў Віленскую музычную школу. Цікава, што ў той час адным з настаўнікаў спеваў працаваў кампазітар Людамір Рагоўскі, вядомы тым, што афармляў музыкай спектаклі трупы І. Буйніцкага, падрыхтаваў і выпусціў у свет «Беларускі песеннік з нотамі для народных і школьных хароў». Пэўна, ён і перадаў хлопцу свае веды, а таксама любоў да народнай песні. Гэта захапленне Альбін пранёс праз усё жыццё: дзе б ні працаваў, у якой бы вёсцы ні размаўляў з сялянамі, дзецьмі, абавязкова звяртаў увагу на арганізацыю хору, лічачы яго магутным дзейнікам развіцця музычнага мастацтва нацыі. Асабліва ў той час, калі большасць сялян не ўмела чытаць, і таму шмат газет, што выходзілі ў той час, заставаліся непрачытанымі. Як пісаў адзін часопіс, гімн «Ад веку мы спалі» больш зрабіў дзеля пашырэння нацыянальнай свядомасці, чым сотні найлепшых патрыятычных прамоў ці газет.

Скончыўшы музычную школу, Альбін напярэдадні першай сусветнай вайны паступае на прававы факультэт Казанскага універсітэта, адначасова працуючы арганістам каталіцкага касцёла. У 1921 г. ён вяртаецца ў Вільню, дзе да 1924 г. вучыцца ў Віленскім універсітэце, але цяжкае матэрыяльнае становішча вымушае яго перапыніць вучобу і пайсці настаўнікам спеваў і музыкі ў Віленскую беларускую гімназію.

«Лічыць пажаданым, каб лектары спеваў стараліся падгатаваць вучняў старшых класаў тэарэтычна і практычна ў знанні музыкі, каб яны маглі не толькі чытаць ноты галасамі, але і запісваць іх... Заснаваць пры школах музычныя гурткі і абавязкова ладзіць школьныя канцэрты ў ліку магчыма большым»,—гэтая рэзалюцыя педагагічнага зместу была прынята пасля даклада Стэповіча на І з'ездзе педагогаў беларускіх сярэдніх школ Заходняй Беларусі (адбыўся 11—14 красавіка 1923 г.).

Стэповіч быў сябрам Студэнцкага Саюза (існаваў у Вільні). У першым нумары студэнцкага часопіса «Наш шлях» ён адрасаваў юнацтву наступныя радкі: «...І не ў далёкай будучыні, па меры культурнага прагрэсу, наша Бацькоўшчына дасць нам сваіх мастакоў, якія, апіраючыся на народную творчасць, створаць нашу беларускую музыку. У сучасны мамент нам, Беларусам, трэба толькі сцерагчы песні, гэты скарб народны, ад чужацкага налёту і забыцця».

Між тым у канцы 1926 г. у Вільні зладжаны Беларускі інстытут Гаспадаркі і Культуры. Старшынёй віленскага гуртка быў выбраны А. Стэповіч. Шмат ён працаваў на ніве беларускай культуры, чытаў лекцыі, зладзіў хор, які складаўся з 30 асоб і працаваў бескарысліва.

У той жа час выходзіць асобным выданнем песня А. Стэповіча «Дзе чутны мовы нашай гукі», да якой ён напісаў і словы:

**Дзе чутны мовы нашай гукі,**
**Дзе брат гаруе з году ў год,**
**Дзе працы шмат чакаюць рукі,**
**Там беларускі наш народ.**
**Мы там разгонім цемру ночы,**
**Звядзем нядолю, ўсякі здзек,**
**Братам раскрыем праўдай вочы**
**І згонім сон з яго павек.**
**На шлях крывіч узыйдзе новы,**
**Да шчасных лепшых ясных дзён.**
**Магутны свежы і здаровы**
**У сям'і народаў роўны ён.**

«Новае жыццё патрабуе і адпаведную песню, якая б жывым рытмам, мелодыяй і патрыятычным зместам будзіла народ, усведамляла, умацоўвала ў імкненнях да нацыянальных ідэалаў і адносінаў», — пісаў аўтар песні.

Пэўна, пра Стэповіча-палітыка лепш раскажа невялічкая хроніка падзей таго часу.

«...На адбытам 24 кастрычніка з'ездзе прыхільнікаў Беларускай Хрысцьянскай Дэмакратыі быў выбран Урад ЦК БХД у складзе: старшыня П. Каруза, віцэ-старшыня кс. А. Станкевіч, сэкратар А. Стэповіч».

«...пасля выхаду, з згоды Арцыбіскупа, кс. А. Станкевіча, месца віцэ-старшыні заняў А. Стэповіч» (і быў на гэтым месцы да канца жыцця. — **Г. Б.**).

«...28 снежня 1927 г. у зале Б.І.Г.К. адбыўся з'езд выбаршчыкаў, скліканы Беларускім Аб'ядналым Выбарчым Камітэтам... З'езд зацвердзіў склад іспалніцельнага камітэта ў саставе: П. Каруза, А. Пазьняк, А. Стэповіч (ад Б.Х.Д.)»

Пачалася парадвыбарная барацьба. Стэповіч разам з П. Карузам былі кандыдатамі ў сойм ад блоку нацыянальных меншасцей па Свянцянскай акрузе. Галасоў яны атрымалі больш за другіх кандыдатаў. Лічылася, што Б.Н.М. «прайграў» выбары — у параўнанні з леташнімі, але выбраныя сваім народам паслы з першых пасяджэнняў сойма пачалі барацьбу за права беларусаў на справе мець сваю мову, культуру, лепшае будучае.

Пры ўсёй занятасці Альбін Стэповіч не забываў наведваць сваіх выбаршчыкаў, аб чым сведчыць наступны артыкул змешчаны ў «Крыніцы»: «...У Шаўлянскай беларускай школе 15 ліпеня з прычыны канчатку заняткаў адбыўся спектакль... Прыехаў у той дзень і наш пасол А. Стэповіч. Дзеці ўрачыста спаткалі пасла прапяваннем бел. гімну і кветкамі. Пасол у сваёй прамове заклікаў да працы ў роднай школе на карысць Бацькоўшчыны. Пад вечар пасол склікаў у памяшканні школы сход і зрабіў справаздачу з працы сойму...»

Гэта сустрэча мела наступны цікавы працяг. Пасля размовы Стэповіча з сялянамі павінны былі адбыцца танцы, але прысутная паліцыя не дазволіла іх ладзіць. Маўляў, з меркаванняў пажарнай бяспекі. На другі дзень Стэповіч даслаў старасце скаргу, і праз два тыдні вечарына ўсё ж адбылася.

Адразу пасля прыезду з Казані А. Стэповіч супрацоўнічае з рэдакцыяй газеты «Беларуская Крыніца», а з 1926 г. разам з П. Карузам кіруюць газетай. Кола яго публіцыстыкі вельмі разнастайнае, пачынаючы са злабадзённых матэрыялаў да казак у «аддзеле для нашых дзетак». Ужо будучы хворым ён прыгатаваў рукапіс спеўніка «За Бацькоўшчыну», але хвароба не дазволіла давесці працу да канца. Стэповіч памёр у 1934 г. ад разрыву сэрца. Пахавалі яго побач з магілай брата Кастуся на могілках Роса.

«Кожны, у чые рукі дастанецца гэты спеўнік, уважыць яго як неўміручы запавет, як голас з-за свету ягонага аўтара — А. Стэповіча — гарачага беларускага патрыёта», — гаварылася ў прадмове да спеўніка. Ці пачуем гэты голас мы?

**Г. БАБКІН.**

## Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ



●

Да В — Г

Дзве розныя птушкі,
Чатыры крылы.
Адна — прыляцела,
Другая — хацела,
А плошча знямелая
Асірацела
І тупа ў балонкі
Глядзелі валы.

Адна прыляцела
Прысесці ля ног.
Бяздольна шукала,
Адчайна гукала,
Самотным прывідам
Па плошчы блукала,
Пакой разрываў
Тэлефонны званок.

Другая хацела,
Але не магла,
Ад ейнага «раю»
Да гэтага краю
Адно толькі: думка
Шляхі вымярае
Пакутлівым пульсам
Жывога крыла.

Навошта адная
Ляцела праз золь!
Маўчалі застыла
Маленькія крылы...
Як толькі другая
Падумала: «Мілы»...
Так сэрца пакінулі
Смутак і боль.

●

Як цябе не хапала мне!
А чаканне было навалай.
Без цябе я канаў у сне!
Як цябе не хапала мне.
Як цябе не хапала!

Вусны піў і лагодзіў слых.
О, як лера мая спявала!
У абдымках займала дых.
Вусны піў і лагодзіў слых!
Але так цябе не хапала...

Як жа стала цябе зашмат!
Як жа цесна з табою стала!
Горкі прысмак тваіх памад...
Як жа стала цябе зашмат.
Як зашмат цябе стала!

●

Сыну СТАСІКУ

Аднаму Богу я малюся —
Святому Спасу на крыві:
Як я жыву для Беларусі,
Так ты жыві.

У гульнях збітыя калені
[Заўжды ж бягом]
Няхай не ведаюць малення
Чужым багом.

Дай Бог табе цяжкой дарогі
І светлых дзён,
Абрыс святарнай перамогі
Здалёк відзён.

Адно: не выпусці паходні
У бруд дарог...
У слотны дзень і ў дзень
пагодны
З табою Бог...

●

Сястры НІНЕ

Назло залевам і снягам,
І маразам-пралазам,
Назло... Назло чужым багам
Мы разам.

Назло нядобрым языкам,
Падманам і абразам,
Назло шалёным скразнякам
Мы разам.

І калі хтось пашле праклён,
Зачэпіць за жывое, —
Адчуе ён, убачыць ён:
Нас двое.

●

Зіма падобная на восень,
Зіма нагадвае вясну,
І ўсё нязбыўнае збылося,
Былое страціла цану.

Іду адзін па свеце гэтым,
Хмурнее неба парасон,
А ты як здань, а ты як сон,
А ты далёкая, як лета.

Я сам вярнуцца не хачу
І не хачу твайго звароту,
Табе самотаю плачу
За адзіноту.

●

Анатолю СЫСУ

Што ж табе так самотна,
Так няўтульна і слотна
У краіне грымотнай
На сцяжыне балотнай!

О, як зыбка пад ногі
Твань асфальту кладзецца
І аднаму з нямногіх
Тут няма дзе падзецца.

За амшарай куп'істай,
За галоднай амшарай,
Дуб чарнее бязлісты,
Дуб галее бязтвары.

Ты дайдзі, дацягніся
Да галінак рукою,
І распусціцца лісце
Маладое такое.

Азірніся на хвілю,
Кінь прывычнае: «Наце!»
І рукам, што застылі,
Дай руку сваю, браце.

●

Пайшоў, дзвярыма бразнуў,
Самотны, не гуканы,
І ў край нязнаных блазнаў
Патрапіў нечакана.

У рогат крываротых,
У погляд крыватварых,
Мяне пыталі: хто ты!
І — што ты за пачвара!

Краналі асцярожна,
Жахаліся прытворна...
Сцюдзёнасцю астрожнай
Кіпеў вятрыска чорны...

Каб тут не затрымацца,
Каб не зрабіцца блазнам,
Я шлях рукою мацаў
У цемрадзі паразнай.

Назло блазенскім асам
Намацаў згук прасвету...
Але здаецца часам,
Што мацаю дагэтуль.

●

Круціцца корба душы,
Вязне ў смузе рэчаістай:
Тчэцца сусвет.
Зорных шляхоў скавышы
Гэтай стыхіяй дваістай,
Як запавет.

Не! — мудрагелісты код,
Генныя нетры прыроды,
Чуйны закон...
Дзядзька размотвае дрот...
Сунецца цётка гародам...
Гэтак спакон.

# ДВА АПАВЯДАННІ

*Міхась Даніленка*



## НАЧЛЕГ НА «ДЗЕВЯТЫМ НЕБЕ»

Ліфт скрыпеў, здавалася, аж стагнаў, быццам стары нямоглы чалавек са зношаным сэрцам, але паволі падымаўся ўверх. Іван Іванавіч стомлена прытуліўся спіной да сценкі кабіны. «І тут паспелі нягоднікі напэцкаць», — міжволі падумалася яму, калі стары настаўнік узняў галаву. Столь кабіны была спаласавана чорнымі пісягамі: яе нядаўна нечым падкурылі. Віднеліся крыжы, плямы, нават нешта, падобнае на свастыку. У скронях шумела, глуха бухала ў грудзях сэрца, і Іван Іванавіч ужо не адчуваў радасці, не было і таго светлага ведання, што вось нарэшце ён на старасці гадоў атрымаў невялікую кватэрку аж на «дзевятым небе», як пажартавала рыжая дзеўчынёха ў аддзеле ўліку і размеркавання жылля.

Нарэшце ліфт спыніўся на апошнім паверсе. Дзверы з трэскам расчыніліся. Іван Іванавіч выйшаў на лесвічную пляцоўку і дастаў з кішэні плашча ключ.

У кватэры з абшарпанымі сценамі (шпалеры, відаць, не мяняліся, колькі жыў яго папярэднік), пакрытай іржавымі карычневымі плямамі ваннай было цёпла і ціха. Што ж, да ўсяго тут трэба прыкладваць жаночыя рукі. Цяпер усе спадзяванні былі на нявестку Таню. Можа, як-небудзь пасля яны абмяняюць яе невялічкую і гэтую вось кватэрку, што выдзелілі яму, і будзе тады жыць Іван Іванавіч апошнія свае дні не адзін, а разам з унукамі. Успомнілася, як у нядзелю доўга безуцешна плакала нявестка. Пад тонкім світэрам сіратліва ўздрыгвалі плечы. На момант яна пераставала, але не магла заглушыць рыданняў.

— Ці ж мала яшчэ чыноўнікаў? — суцяшаў яе Іван Іванавіч. — Ты ж сама ведаеш: у нас часта чалавека не бачаць, а толькі паперу з пячаткай.

— Коля, Коля! — заходзілася ў нясцерпным плачы нявестка. — Якраз жа сёння восем месяцаў, як цябе няма. А яны нясуць гэтае праклятае запрашэнне...

Трэба ж было такому здарыцца: больш чым паўгода, як памёр Мікалай. Таццяна некалькі разоў ездзіла ў ваенкамат, паведамляла ў жыллёва-эксплуатацыйны аддзел, як цяпер называлі домакіраўніцтва — паведамляла, што муж памёр. Там слухалі, спачувальна ківалі галовамі, выкрэслівалі Мікалая са спісаў жывых. А ў мінулую нядзелю... прынеслі запрашэнне ісці галасаваць у мясцовыя Саветы...

Усё-такі тады Іван Іванавіч супакоіў Таню. У чым яму пашанцавала, дык гэта з унукамі і нявесткай. Добрае, залатое ў яе сэрца. Расказаў ёй, як у адной установе таўсматая ў акулярах жанчына, калі ён падаў дакументы на расшырэнне кватэры, грэбліва скрывілася:

— Вам, паважаны, трэба шукаць ужо сабе месца дзе ў Асаўцах, а не думаць аб асобнай жылплошчы...

Іван Іванавіч адчуў, як часта заторгалася правае павека, у вушах, быццам далёкі марскі прыбой, зашумела. Вось-вось пацямнее ў вачах. Ён стараўся намаганнямі волі супакоіць сябе. Ведаў: калі згубіць над сабой кантроль — быць бядзе. Непапраўнай... Некалі ў далёкім сорак другім, калі іхні партызанскі атрад аблажылі з усіх бакоў у Амелькаўскіх балотах, ён ледзь не прыстрэліў намесніка камандзіра. Той вельмі ж прыгожа ўмеў разглагольстваваць, як трэба біць фашыстаў, расказваў пра светлае заўтра, а тады папросту струсіў... Ведаў Іван Іванавіч: Асаўцы — гэта апошні прытулак такіх, як ён. Два метры зямлі, неабгабляваная труна. Над ім хіба паплача толькі Таня з унукамі. Няма ўжо ні жонкі, ні сына Мікалая: у сорак гадоў адвезлі ў Асаўцы. Прысеў пасля змены на заводзе ў скверыку... Там і знайшлі яго — ужо халоднага — сагнутага, з расплюшчанымі вачыма. Сядзеў прыгорблены, трымаўся за левы бок грудзей.

— Я, галубка, не спяшаюся ў тыя Асаўцы. Можа, дзякаваць Богу, яшчэ вытрываю. Шкада толькі, што з-за такіх, як ты, гнід некалі праступду падхапіў, галадаў, у канцлагеры падыхаў. Дык лепей ты едзь у Асаўцы...

Цяжка дастаўся той знешні спакой Івану Іванавічу. Калі выйшаў з кабінета ў калідор, усяго трэсла, бы ў ліхаманцы, кропелькі халоднага поту пакрылі лоб. Не хапала паветра, глуха тахкала сэрца.

Колькі ён сустрэў такіх вось грубых, бяздушных чыноўнікаў, пакуль блукаў з кабінета ў кабінет у розных установах. Як метраном, у памяці старога настаўніка гучалі словы з «Новай зямлі», якую ён ведаў ледзь не ўсю на памяць: «У стол уткнуўшыся насамі, сядзяць пісцы, як гною кучкі, скрыпяць іх пёрцы, ходзяць ручкі...» Мінула ледзь не ўсе сто гадоў, як паэт напісаў гэтыя радкі. А «пісцоў» не зменшылася. Толькі цяпер шоргалі па паперы шарыкавыя ручкі, а некаторыя абзавяліся нават «паркерамі».

Іван Іванавіч прысеў на маленькую раскладушку. Яе Таццяна ўзяла ў дзіцячым садзіку; там яна працавала выхавацелькай. Што ж, можна, падкурчыўшы ногі, пераспаць і на такім вось «ложку». Усё роўна ў мэблевых магазінах не было нават заваляшчай табурэткі. Ды і які сон у старога чалавека? Іван Іванавіч падняўся, пачаў распранацца. Адсюль, з дзевятага паверха, віднелася залучына Сожа. Дым валіў з каміноў цеплацэнтралі. Да прыпынку час ад часу пад'язджалі доўгія пасажырскія «Ікарусы». (Іх мясцовыя вастраслovы ахрысцілі «гармонікамі» ці «баянамі»). Іван Іванавіч разаслаў на раскладушку прасціну, паклаў падушку. На столі-даху недзе паблізу вуркаталі галубы. У трубах вадзяного ацяплення нешта булькала, пакрэктвала, потым грымела — быццам зрываўся з нябачнай ніці нейкі груз. Настаўнік падкурчыў ногі і прылёг на раскладушку. Павекі яго змружваліся, але сон не ішоў. Іван Іванавіч ведаў: засне не раней адзінаццаці гадзін. Можна было б, вядома, у Танінай кватэры паглядзець тэлевізар. Але тады ў «гармонік» старому настаўніку не так проста было б уціснуцца. Маладзейшыя пёрлі напралом. Аднойчы дзяўчына, якую піхнулі ад дзвярэй аўтобуса, так прыціснула акаваным вугалком «дыпламата», што Іван Іванавіч — па натуры чалавек далікатны — пачаў прасіцца:

— Асцярожней, даражэнькая. Не паламайце рэбраў.

Цяпер ён ляжаў на раскладушцы і перабіраў у памяці сваё жыццё. Да вайны дапамагаў у вёсцы бацькам, а пасля — вучыўся. А потым, як вырваўся з акружэння, пайшоў у партызаны. Трапіў у канцлагер. Пасля вайны — школа. Ён быў добрым настаўнікам. Тыя, каго некалі вучыў Іван Іванавіч, на шматлікія гады палюбілі і родную мову, і літаратуру. Два разы ў раёне хацелі адзначыць працу Івана Іванавіча. Адзін раз падалі дакументы «наверх», каб яму прысвоілі званне заслужанага настаўніка. У другі раз запоўнілі паперы, каб узнагародзілі ордэнам Леніна. І першы, і другі раз нейкі бясстрасны партыйны чыноўнік выкрасліў настаўнікава прозвішча: чалавек быў вязнем канцлагера. Хіба можна яго ўзнагароджваць? Хай сядзіць і не рыпаецца. Няхай падзякуе, што значок выдатніка народнай асветы далі.

Праз шмат гадоў — ужо калі Іван Іванавіч быў на пенсіі (тады яшчэ жывая была Серафіма Дарафееўна) — знаёмы былы загадчык райана, якога ён выпадкова сустрэў у горадзе, прызнаўся:

— Мы ўсё рабілі, Іван Іванавіч. Але ведаеце: ілбом жалезабетонную сцяну не прабіць...

Так, тую сцяну наўрад ці ўдасца прабіць каму і ў бліжэйшыя гады. Мусіць, адчувала сваю сілу і праваты тая ў акулярах, якая напамінала старому настаўніку пра Асаўцы. Не стала на зямлі Серафімы Дарафееўны (яна ўсё жыццё вучыла малалетак), не падняўся з лаўкі ў заводскім скверыку яго Мікалай, і, можа, не такі ўжо далёкі дзень, калі і яго павязуць у тыя Асаўцы. Толькі вось задача: як знесці з гэтага «дзевятага неба» яго, грэшнага? Шкада Тані. Трэба хутчэй нешта рабіць, каб з'ехацца з нявесткай і ўнукамі. Цяжка і сумна будзе тут аднаму, хоць вый, як у піліпаўку галодны воўк. Падумалася: да чаго ж азвярэў за апошнія гады народ. Колькі паблукаў ён па кабінетах, пакуль атрымліваў вось гэтую кватэру! А ён жа прыехаў у горад да Тані з вёскі, якую спаліў Чарнобыль. І сустрэў толькі аднаго чалавека, які аднёсся да яго не па-чыноўніцку.

У кабінеце сярэдніх гадоў мужчына доўга тлумачыў, як трапіць у інтэрнат «пагарэльцам».

— Бачыце, яны будуць рамантаваць свой дом. А вось пасяліцца пакуль няма дзе, — растлумачыў ён Івану Іванавічу, калі падышла яго чарга вырашаць сваё пытанне.

# ШТО Ж БУДЗЕ З НАШЫМ ТАНЦАМ?

## Палемічныя меркаванні пра сённяшні стан харэаграфічнага мастацтва

**кадрылі і іншыя беларускія танцы да такой ступені «асучаснілі», што іх проста немагчыма пазнаць — слабыя спробы безгустоўнай тэатралізацыі не толькі выклікаюць пачуццё пратэсту, але і падкрэсліваюць непапаўняльныя страты, нанесеныя народнаму танцу такім, мякка кажучы, вольным з ім абыходжаннем.**

**Трэба пазбаўляцца беларускаму танцу ўсяго наноснага, псеўданароднага, засцерагацца ад штампа ў выкананні, які заўсёды зніжае ўзровень майстэрства. Трэба аберагаць нашу культуру ад усяго выпадковага. Але гэта не азначае, што танцы трэба ставіць прымітыўна.**

Калі ёсць веданне сапраўдных першакрыніц, карэнных элементаў харэаграфічнага фальклору, тады толькі ўласная фантазія пастаноўшчыка працуе вольна і цікава. Справа, канечне, не ў тым, каб механічна вывучыць канкрэтныя рухі народнага танца — хоць гэта таксама вельмі важна, — але балетмайстар павінен тонка разбірацца ў манеры, у тых штрыхах і выяўленчых прыёмах, якія вельмі важныя ў фальклоры.

Стварыць кампазіцыю танца — справа складаная, тонкая, якая вымагае працяглага пошуку і арыгінальных творчых рашэнняў. На працягу свайго існавання танцы змяняліся, узбагачаліся новымі роднаснымі рухамі. Напрыклад, танец можа быць цікавы сваёй самабытнасцю, сваёй манерай, але для сцэны занадта просты. Тады пастаноўшчык яго развівае, узбагачае сваёй фантазіяй і падкрэслівае найбольш характэрныя элементы танца, захоўваючы яго прыроду, манеру, стыль. Толькі добра ведаючы народны танец у яго мінулым, можна і далей яго развіваць, уносячы ў яго новыя элементы. Народны беларускі танец — не застыглая догма. І не трэба баяцца эксперыментаваць, трэба даць разгарнуцца таленавітым балетмайстрам. Эксперымент у мастацтве таксама неабходны. Пытанне толькі ў тым, як эксперыментаваць і навошта? Калі эксперымент не мае пад сабой рэальнай традыцыйнай народнай харэаграфіі і робіцца толькі самамэтай, то ён ніколі не станецца грунтам для твора мастацтва, які пражыў бы доўгае жыццё.

ДАВАЙЦЕ ўявім сабе творчую атмасферу 20-х — пачатку 40-х гадоў, час пошукаў. Хочацца ўспомніць, як працаваў вядомы беларускі балетмайстар Канстанцін Андрэевіч Алексютовіч. Яго прыклад — павучальны. Перш за ўсё ён правёў вялікую работу па зборы, вывучэнні, распрацоўцы і апрацоўцы беларускага танцавальнага фальклору, што дало магчымасць папулярызаваць беларускі народны танец. Алексютовіч — і балетмайстар-эксперыментатар. Ён для пастановак танцаў знаходзіў новыя сродкі выяўлення ў рухах, у жэсце, нават у міміцы. З такой выдумкай, дзякуючы вялікай фантазіі і вынаходлівасці пастаноўшчыка, паказваў новыя тэхнічныя рухі, якія з'яўляліся выяўленчымі сродкамі, але ні ў якай меры не трукацтвам. Ён ведаў, калі і якія рухі мэтазгодна ўжываць, бо адзін і той жа рух можа мець розны сэнс, у залежнасці ад месца ў танцы, ад спалучэння з іншымі рухамі. Галоўнае, каб яны былі пераканаўчыя, перадавалі мастацкую задуму і падкрэслівалі думку пастаноўшчыка. Многія створаныя К. Алексютовічам танцы, кампазіцыі глыбока народныя, у яго творчасці ўвасоблены лепшыя пачуцці і думкі беларусаў. Але хутка не застанецца людзей, якія захоўваюць у памяці гэтыя танцы-шэдэўры, і яны будуць незваротна страчаны для новых пакаленняў.

Які б этап творчага шляху Алексютовіча мы ні ўзялі, кожны адыграў велізарную ролю ў гісторыі беларускай харэаграфіі. Я лічу, што неабходна правесці вялікую работу па аднаўленні сапраўдных пастановак беларускіх танцаў Канстанціна Андрэевіча Алексютовіча, пакуль яшчэ не позна, бо ёсць былыя ягоны вучні да паплечнікі. Хацелася б спадзявацца, што Міністэрства культуры БССР, Музычнае таварыства, СТД БССР і Навукова-метадычны цэнтр культуры праявяць цікавасць да творчай спадчыны харэографа і паспрыяюць выпуску кнігі танцаў К. Алексютовіча.

Я, як і іншыя ягоныя вучні, ганаруся тым, што належала да школы К. Алексютовіча. Пасеяныя ім добрыя зярняты далі добрыя ўсходы. У рэспубліцы сфарміравалася некалькі ансамбляў, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё і прапаганду народнага беларускага танца, — дзякуючы А. Рыбальчанку, С. Дрэчыну, П. Акулёнку, І. Серыкаву, М. Рохману і многім іншым. Адыходзіць старэйшае пакаленне. А што адбываецца ў наш час?

Самай актуальнай праблемай робіцца праблема кадраў. Сур'ёзнае пытанне — недахват кваліфікаваных харэографаў-балетмайстраў для прафесійных і самадзейных калектываў. І нам патрэбна не толькі колькасць, а і якасць кіраўнікоў — прапагандыстаў беларускага народнага танца, іх творчае мысленне, фантазія, веды павінны быць на высокім прафесійным узроўні.

У выхаванні будучых харэографаў вялікую адказнасць нясуць Мінскі інстытут культуры, Мінскае вучылішча мастацтва і культуры, Беларускае дзяржаўнае харэаграфічнае вучылішча, дый Дзяржаўны ансамбль танца БССР. Неабходна, каб гэтыя ўстановы больш дакладна вызначылі сваю пазіцыю ў справе выхавання маладых спецыялістаў у галіне харэаграфіі, арыентуючы іх на спасціжэнне танцавальнай спадчыны розных народаў. Надаваць увагу вывучэнню беларускага народнага танца з яго рэгіянальнымі асаблівасцямі, абавязкова знаёміць выпускнікоў з усімі апублікаванымі матэрыяламі ў гэтай галіне. Цудоўныя ўзоры народнага танцавальнага мастацтва з цудоўнай музыкай, выдатнай лексікай трэба захаваць і данесці да будучых пакаленняў. Гэтым у нас у спецыяльных навучальных установах займаюцца недастаткова шырока і недастаткова адукавана.

Вядома, галоўнае ў тым, каб мастацтва танца не толькі не страціла заваяваных пазіцый, а і дасягнула новых вышыняў. Вось чаму нашы погляды звяртаюцца да навучальных устаноў, якія займаюцца падрыхтоўкай харэографаў-балетмайстраў. Думаецца, трэба пашырыць агульную эстэтычную падрыхтоўку студэнтаў, што паўплывае на фарміраванне культурных патрэбнасцей, інтарэсаў будучага спецыяліста. На маю думку, у гэтых навучальных установах пакуль не вывучаюць грунтоўна і сур'ёзна беларускі танец, рытміку, акцёрскае майстэрства, запіс і разбор танцаў, педагагічную і рэпетытарскую дзейнасць, эстэтыку харэаграфіі.

**Рыхтаваць кваліфікаваныя кадры балетмайстраў — адна з галоўных задач, напрыклад, кафедры харэаграфіі Мінскага інстытута культуры. Існуе кафедра ўжо больш за 10 гадоў, але, як паказаў І Рэспубліканскі фестываль беларускага народнага танца (сакавік 1990 г., Гродна), востра стаіць праблема падрыхтоўкі балетмайстарскіх кадраў. Кафедра харэаграфіі МІКа мае лабараторыю па вывучэнні танцавальнай культуры Беларусі. Лічу, што ўжо можна выявіць моцную дыспрапорцыю паміж затрачанымі лабараторыяй намаганнямі і вынікам падрыхтоўкі кадраў.**

**Наколькі мне вядома, на сённяшні дзень Мінскі інстытут культуры, гэтаксама як і вучылішча мастацтва і культуры, харэаграфічнае вучылішча БССР з многіх соцень народных танцавальных рэгіянальных узораў і варыянтаў танцаў знаёмяць студэнтаў у працэсе вучобы не больш як з дзесяткам вядомых: «Лявоніха», «Крыжачок», «Бульба», «Мяцеліца», «Лянок», «Карагод», «Таўкачыкі»... Элементы руху падаюцца толькі абстрактна, ускладнёна. А дзе ж знаёмства з натуральнай лексікай нацыянальных народных узораў, як у танцы «Бычок», «Галубец», «Качан», «Закаблука», «Завейніца», «Казачок», «Кросны», «Мельнік», «Малацілачка», «Плясуха», «Падсяванка», «Ручнікі», «Цярніца», «Шаўцы», «Шостак», «Ветрык» і інш? Чаму амаль забыты сольны танец беларускіх танцоўшчыц і танцоўшчыкаў, дзе выяўлены яркі самабытны характар беларуса, ягоны гумар, выдумка ў арыгінальных «каленцах»? Як цудоўна было б аднавіць гэтую традыцыю жаночых скокаў-імправізацый і мужчынскіх сольных скокаў! Гэта традыцыя адыходзіць у нябыт, хоць у вёсцы пакуль яшчэ не зусім забыта.**

Пытанне пра знікненне народных беларускіх танцаў, якія ўжо павінны быць занесены ў Чырвоную кнігу, узнімалася на нарадах, канферэнцыях кіраўнікоў танцавальных калектываў і ў рознай форме гучала шмат разоў, але зрухаў пакуль няма.

СЛОВАМ, у цэлым стан у галіне беларускага харэаграфічнага мастацтва больш чым трывожны. Нават у нашым харэаграфічным вучылішчы, якое выпускае прафесійныя кадры, улічваючы індывідуальныя асаблівасці выхаванца, ягоны характар, музычнасць, творчыя схільнасці, не вывучаецца курс народнага беларускага танца і выпускнікі яго не ведаюць. А быў час, калі ў кожным класе вучылішча я асабіста вяла абавязковыя ўрокі народнага танца, і выхаванцы былі падрыхтаваныя для працы ў беларускіх ансамблях. А што цяпер? Век балетных артыстаў адмераны — праз дваццаць гадоў сцэнічнай працы ім прызначаецца пенсія. Развітваюцца са сцэнай, але імкнуцца і далей быць карыснымі мастацтву. Нярэдка яны робяцца кіраўнікамі самадзейных калектываў. Гэта, вядома, добра, бо маюць велізарны сцэнічны вопыт, гадамі выхаванае пачуццё танца. Але тут і праяўляецца негатыўны бок. Працуючы ў Беларусі, яны не ведаюць асаблівасцей нацыянальнага танца і таму не здатныя да самастойнага асваення танцавальнай першакрыніцы. Што ж адбываецца пры гэтым няведанні? Пры сцэнічнай апрацоўцы танца яны могуць скажаць яго сутнасць, вымушаны ісці па шляху пераймання, цалкам пераносіць у свой рэпертуар гатовыя распрацоўкі іншых балетмайстраў, галоўным чынам, з прафесійных ансамбляў. Падобнае папаўненне вядзе да перапеву адных і тых жа пастановачных прыёмаў.

А як бы выйграла танцавальнае мастацтва, калі б кожны выпускнік-балетмайстар помніў галоўную сваю задачу: ствараць танец і прыносіць у калектыў штосьці новае, яркае, непаўторнае па задуме!

З'явілася маладое пакаленне харэографаў, і яны павінны ўнесці свой уклад у развіццё беларускага мастацтва. Ад іх многае залежыць: як узбагаціцца наша танцавальнае мастацтва спадчынай мінулага, як будуць захоўвацца каштоўнасці культурнай спадчыны, якой будзе праграма далейшага жыцця танцавальнага мастацтва.

Наперадзе ў іх вялікія і цікавыя творчыя задачы, калі яны будуць абапірацца на самыя багатыя крыніцы народнай творчасці і будуць улюбёныя ў беларускі народны танец, у наш фальклор. Тады яны стануць вартымі вялікіх задач.

І яшчэ. Наспела неабходнасць у правядзенні рэспубліканскай канферэнцыі, прысвечанай сучаснаму стану нашага харэаграфічнага мастацтва. Трэба ўсё абдумаць разам, разам абмеркаваць надзённыя праблемы.

Ларыса АЛЕКСЮТОВІЧ.

**АД РЭДАКЦЫІ: Артыкул Л. Алексютовіч надрукаваны са скарачэннямі, але гэта не скажае яго змест. Пазіцыя аўтара зразумелая. Спадзяёмся, на публікацыю адгукнуцца прафесійныя харэографы, навукоўцы, спецыялісты-педагогі.**

# ЧАСІНА РАСЧАРАВАННЯЎ

## Лірычная споведзь тэатральнага мастака

**Хацеў быў зрабіць уступ да гэтых сваіх нататак, ды зразумеў — не трэба. «Уступ» даўно ўжо зроблены — усім прыкладам развіцця нашае дзяржавы. Цяпер, мовячы па-тэатральнаму, адбываецца суцэльная кульмінацыя, якая вельмі нагадвае эпілог...**

**Аднак што гэта я пра дзяржаву! Збіраўся ж — аб праблемах тэатра (у дзяржаве), пра ягонае матэрыяльна-духоўнае жыццё...**

**Я прыехаў у Гродзенскі абласны тэатр лялек з Ленінградскага ДІТМІКа па ўласным жаданні і запрашэнні галоўнага рэжысёра. Я быў натхнёны працаю, дзень бег як гадзіна, усе наўкол былі сябры, браты, аднадумцы! У мяне — ідэі, жаданні, магчымасці!.. Мог паскардзіцца хіба толькі на сумныя і манатонныя п'есы з «абавязковага лялечнага рэпертуару», якія, праўда, разнастаіла захапляючая работа з рэжысёрам. Аднак...**

**Аднак наспела часіна расчараванняў, жыццё балюча ўдарыла — і дзякуй яму за гэта, бо цаляла яно не ў мяне, а ў мае ружовыя акуляры, што са студэнцкіх часоў угнездзіліся на носе...**

**...Спектаклі пра добрае і светлае, аказваецца, могуць рабіцца цёмным і злосным чынам; фальшывае лідэрства ноты «я» можа замяняць старую і добрую тэатральную ноту «мы»; размовы пра духоўнасць не гарманіруюць з думкамі пра побыт; перадпрэм'ерная беганіна і кліч «давай, давай!» змяняе пасляпрэм'ерны тэмп «не трэба». калі ўсе, хто ёсць у тэатры, дружна вяртаюцца да сваіх спраў, нібыта займаючыся справаю агульнай..**

**Я, мабыць, доўгі час сам ствараў сваё рамантычнае аблічча, песціў сваё рамантычнае «нутро», і ўдача ў стварэнні вобраза была б ідавочнаю, калі б менш даводзілася дбаць... ну хоць бы пра каўбасу. Цела, бачыце, выдае ўжо «духоўнасць», а душы, аказваецца, патрабуецца грубая матэрыя. Болей за ўсе парадоксы сцэны мяне знясільвае пытанне-парадокс: матэрыяльны дэфіцыт спараджае духоўны ці наадварот? Цяжка і недарэчна вінаваціць акцёра, рэжысёра ці мастака, якія нібыта вольна твораць у тэатры, за тое, што ў жыцці яны перакідваюцца рабамі — занадта «спрыяльных фактараў». Дый жа злыбеда ў тым, што гэты самы працэс мае і адваротны кірунак, і штодня ўжо я жахаюся думкі: раб, раб не толькі ў жыцці, але і ў мастацтве!**

**...А хто царуе ў тэатры? Хто валадарыць матэрыяльным і духоўным? Мельпамена? Што вы... Тая самая каўбаса ці чарга на кватэру. Няўжо таму, што нехта нешта тэатру не дае? Нечага творцам тэатра не дазваляе? Трымае за рукі, сядзіць на карку, замінае, шкодзіць і ненавідзіць?**

**Думаю, што не. Спачатку з'яўляецца пан, потым ужо — раб, дый кожны першапачаткова народжаны вольным. Вольным!...**

**Юрый ДАВЫДЗЮК,**
**галоўны мастак Гродзенскага абласнога тэатра лялек.**

# З жыцця Антона ЛУЦКЕВІЧА



**Давайце адзначым дзень нараджэння Антона Луцкевіча.**

**Сёлета не юбілей — 107-ыя ўгодкі. Але нам так доўга забаранялі сказаць пра яго справядлівыя словы, што й някруглую дату можна адзначыць.**

**Сёлета юбілей Максіма Багдановіча, якога любіць, здаецца, уся Беларусь асабліва моладзь. Яго любіў Луцкевіч. Чытаў пра яго лекцыі ў 10-ую і 20-ую гадавіны смерці, перавыдаў «Вянок» і напісаў прадмову, апублікаваў спадчыну. Гэта ён, Луцкевіч, здзейсніў і першае выданне «Вянка», ён напісаў і першую рэцэнзію на зборнік. Ён разам з братам і Аляксандрам Уласавым паклікаў паэта на Беларусь: у Вільню, у бабуліну Ракуцёўшчыну. Гэта яму, Луцкевічу, прысвяціў Максім свой верш «Дзень добры, Пане!»**

**Луцкевіч умеў прыкмячаць і заахвочваць таленты. Разам з братам Іванам, Уладзімірам Самойлам, Алесем Бурбісам ды Сяргеем Скандраковым (сябрам БСГ) ён у 1904 — 1905 гг. далучыў да беларускага руху маладога Яна Луцэвіча. І аўтар малаарыгінальных польскіх вершыкаў стаў Янкам Купалам. Ён, Луцкевіч, паклікаў работніка бровара Янку Купалу ў «Нашу Ніву»... Ён, Луцкевіч, далучыў да беларускага руху настаўніка, аўтара слабаватых рускіх вершаў Костуся Міцкевіча, і той дэбютаваў у першым нумары «Нашай Долі» пад гучным, слаўным імем — Якуб Колас. Калі ж настаўнік апынуўся без сродкаў, яго паклікалі ў «Нашу Ніву». У «Нашу Ніву» паклікалі і Цішку Гартнага, і Змітрака Бядулю, і Вацлава Ластоўскага, у «Нашай Ніве» прывецілі й Максіма Гарэцкага, Канстанцыю Буйло, Гальяша Леўчыка... Першыя вершы і першы зборнік нашай выдатнай паэткі Наталлі Арсенневай рэдагаваў А. Луцкевіч. Яго памочнікам і вучнем быў Хведар Ільяшэвіч. Да яго ў хвілю адчаю звяртаўся вясковы бядняк Міхась Машара. Луцкевіч паспрыяў Уладзіміру Жылку, быў рэдактарам першае кнігі паэта. Ён вітаў паэтычны талент камуніста-падпольшчыка Максіма Танка і бываў з ім у адной сябрыне...**

**Пра Луцкевіча трэба пісаць.**

**Вывучаючы яго жыццё, грамадскую і палітычную дзейнасць, я наракаю на нашых лінгвістаў: чаму яны не апублікуюць і не прааналізуюць рукапісы А. Луцкевіча «Беларуская граматыка. (Паводле лекцый, чытаных на Беларускіх Вучыцельскіх Курсах у Вільні ў 1915—1916 гг.) Часьць 1. Фонэтыка і этымолёгія», «Беларуская граматыка. Паводле лекцый, чытаных на Беларускіх Вучыцельскіх курсах у Вільні ў 1915—1916 гг.» (абедзве працы напісаны лацінкаю) і кірылічны рукапіс «Беларуская граматыка. Фонэтыка і этымолёгія. Лекціі, чытаные на Вячорных Курсах для народных вучыцялёў у Вільні»? Гэтыя матэрыялы захоўваюцца ў Цэнтральнай бібліятэцы Літоўскай Акадэміі навук (фонд 21, справы 326, 325, 324). Гісторыкі і метадысты маглі б звярнуць увагу на рукапіс А. Луцкевіча «Гісторыя сярэдніх вякоў» і працу з гісторыі Беларусі ад 1067 года да Усяслава Васількавіча (ЦБ ЛітАН, ф. 21, спр. 328, 331). Матэматыкі і метадысты маглі б вывучыць працу А. Луцкевіча (а ён вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Пецярбургскага універсітэта) з тэорыі лікаў, ягоны пераклад «Алгебры» Кісялёва (тамсама, спр. 329), а таксама «Уступленне да гэомэтрыі» (спр. 330). Нашы выдавецтвы маглі б зацікавіцца перакладам «Кнігі джунгляў» Рэдзьярда Кіплінга (спр. 221—226). Я ўжо маўчу, што даследчыкаў чакаюць літаратуразнаўчыя публікацыі ды рукапісы А. Луцкевіча, а таксама шматлікія лісты паэтаў, празаікаў, драматургаў, адрасаваныя яму.**

**У асобе, у шматграннай дзейнасці А. Луцкевіча мяне асабіста найперш цікавяць яго палітычныя і філасофскія погляды, яго грамадская і палітычная праца. У 7-ым нумары часопіса «Нёман» за мінулы год я ўжо знаёміў чытачоў з асноўнымі фактамі з жыцця А. Луцкевіча. Праца працягваецца. І таму гэты цыкл з трох артыкулаў я разглядаю як дадатак да мінулагодняе публікацыі.**

**Для мяне важна, што артыкул «Маёнтак» друкуецца напярэдадні 107-ых угодкаў Антона Луцкевіча. Давайце першы раз у гісторыі Беларусі адзначым дзень яго нараджэння.**

**АЎТАР.**

**Анатоль СІДАРЭВІЧ**

# МАЁНТАК

Луцкевічы былі шляхціцамі, але не памешчыкамі. Не магу сказаць дакладна, калі і ў выніку чаго яны пазбавіліся зямлі, але магу меркаваць, што прычынаю таго было паўстанне 1863—1864 гг. У лісце да прафесара Ягелонскага універсітэта Ю. Каленбаха (Цэнтральная бібліятэка Літоўскай Акадэміі навук, фонд 21, справа 294, аркушы 5—7)[1] Антон Луцкевіч пісаў: «... дзядзька мой, Сцяпан Луцкевіч, загінуў у паўстанні 1863 года». Паводле агульнага правіла, паўстанцы пазбаўляліся шляхецкага звання і маёнткаў.

Нават калі дапусціць, што ў Сцяпана Луцкевіча быў нейкі маёнтак, гэтага не скажаш пра яго брата Яна Баляслава, Антонавага бацьку, які спачатку жыў з вайсковай службы (даслужыўся да чына капітана расійскай арміі), а потым арандаваў зямлю, меў заробак у ведамстве шляхоў зносін[2].

Язэп Янушкевіч, які вывучае жыццё Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (а з ім сябраваў Ян Баляслаў), апавядаў мне, што бацька Антонаў быў шляхціцам старое даты: любіў пажыць весела. Ажаніўся, як і належала шляхціцу, пазнавата.

З якое фаміліі паходзіла першая жонка Яна Баляслава, даведацца пакуль што не ўдалося. Пакінуўшы дзвюх дачок — Станіславу і Марыю,— яна памерла. Марыя Луцкевічанка нарадзілася ў 1876 годзе. У замустве мела прозвішча Плявака. Памерла ў 1915 годзе; пахавана побач з бацькам. Станіслава перажыла сваю сястру. Жыла ў Варшаве. Актыўна ліставалася з Антонам (пісьмы яе захоўваюцца ў справах 299—300).

Другою жонкаю Яна Баляслава была дачка памешчыка Эмерыка Лычкоўскага — Зоф'я. Паны Лычкоўскія валодалі невялічкім (1 валока) фальваркам у вёсцы Ракуцёўшчына Вілейскага павета Віленскай губерні. Відаць, невялікае было іх багацце, калі яны аддалі сваю дачку за беззямельнага шляхціца, ды яшчэ ўдаўца з дзецьмі. Галеча новай сям'і не пагражала: як удзельнік Крымскай вайны і абароны Севастопаля, Ян Баляслаў Луцкевіч меў неблагі пенсіён, меў права вучыць сваіх дзяцей у гімназіі за казённы кошт. І на чыгунцы, дзе ён служыў, чыноўнікі атрымлівалі някепскія грошы, казённае жыллё і г.д.

Ад другое жонкі ў Яна Луцкевіча было чацвёра дзяцей: Іван Герман, Антон, Эмілія і Сцяпан. Пра першых двух мы начуліся і начыталіся ўсяго ўсякага. Эмілія была потым жонкаю Алеся Шабуні, выкладчыка Менскага політэхнічнага тэхнікума, малодшага брата аднаго з заснавальнікаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады Антона Шабуні. Як вынікае з аднаго яе ліста да А. Луцкевіча, Эмілія сябравала з Уладзіславай Луцкевіч (Купаліхай): называла яе Уладкай. Меншы з дзяцей Яна Баляслава, Сцяпан, быў вайсковым лекарам і ў гэтым сваім званні прайшоў дзве сусветныя вайны. З 1926 года жыў у Менску. Ён быў першым лекарам, якога паклікалі адразу пасля таго, як Купала параніў сябе ў лістападзе 1930 года. Памёр у 1947 годзе.

Ян Баляслаў, пакінуўшы малалетніх дзяцей, памёр у 1895 годзе. Жонка пахавала яго ў Мінску — на Кальварыі. І зараз стаіць там надмагільны помнік.

У 1897 годзе Зоф'я Луцкевіч з Лібавы, апошняга месца службы яе мужа, пераехала ў Мінск. Жыла ў сваім доме на вуліцы Хрышчэнскай (цяпер адрэзак Інтэрнацыянальнай ад вуліцы Янкі Купалы да плошчы Свабоды). Мяркуючы па гэтым, сродкі ў яе былі. Не ведаю, калі памёр бацька Зоф'і Луцкевіч. З вядомых мне дакументаў вынікае, што маёнтачкам у Ракуцёўшчыне валодала яе маці — Эмілія Лычкоўская. 1 жніўня 1897 года яна засведчыла ў мінскага натарыуса Пятра Галіневіча даверанасць на права валодання маёнткам. Такое права яна дала Вацлаву Захару Лычкоўскаму, свайму сыну, брату Зоф'і і дзядзьку Антона Луцкевіча (спр. 310, арк. 9).

У 1904 годзе, 21 ліпеня, бабуля А. Луцкевіча памерла. 4 сакавіка 1905 года ў Віленскі акруговы суд было накіравана прашэнне дваранкі Зоф'і Луцкевіч, засведчанае тым жа натарыусам Галіневічам. У прашэнні мы чытаем: «Не желая воспользоваться наследством, оставшимся после матери моей Лычковской, в чем бы оно ни состояло и где бы оно не находилось, я отрекаюсь от оного и покорнейше прошу Суд отречение мое принять к сведению» (спр. 310, арк. 8).

Такім чынам уладальнікам фальварка ў Ракуцёўшчыне стаў той самы дробны, паводле вызначэння Вацлава Ластоўскага, шляхціц дзядзька Антона Луцкевіча Вацлаў Захар Лычкоўскі, у якога госцем будзе Максім Багдановіч. Але ў Вацлава Захара, апрача Зоф'і, былі яшчэ сёстры. І яны прэтэндавалі на матчыну спадчыну. Пра гэта сведчыць ліст В. З. Лычкоўскага да пляменніка, пісаны 20 верасня 1923 года (спр. 279, арк. 32). Дзядзька быў не вялікі грамацей, але з гэтага ліста можна даведацца, што ён пакінуў сабе сад і будоўлі і прызнаў права сясцёр на астатнюю зямлю. Дзядзька высылаў А. Луцкевічу дакументы, каб той аддаў іх на прагляд віленскаму адвакату Іванову. З гэтага ліста вынікае таксама, што А. Луцкевіч стаў уладальнікам часткі маёнтка.

Як жа так? — спытае чытач. Вельмі проста. Паколькі сёстры Зоф'і Луцкевіч не адмовіліся ад сваёй долі спадчыны, то, паводле элементарнай логікі, нельга было не ўлічваць і правы яе законнага спадкаемцы, нават нягледзячы на тое, што сама маці А. Луцкевіча ад гэтае спадчыны адмовілася. Па-другое, дакументы сведчаць, што А. Луцкевіч высылаў грошы свайму дзядзьку — няйначай дапамагаў яму. З дакументаў відаць, што паміж дзядзькам і пляменнікам былі даверлівыя, прыязныя адносіны.

Сваю частку маёнтка А. Луцкевіч аддаў у арэнду жыхару Ракуцёўшчыны Андрэю Грышалю. На пачатку 1926 года Вацлаў Захар Лычкоўскі памёр. У лісце, пісаным 1 сакавіка 1926 года (спр.279, аркушы 9—10), А. Грышэль паведамляў, што цётка А. Луцкевіча, Ядвіга Русецкая, пасля «соймікавання» з панам Таргоньскім, які хацеў узяць у арэнду ўвесь маёнтак, заявіла што «сёстры прыслалі наказ, кабы не аддаваць у арэнду дзеля таго, што ўсе сёстры w kwietniu паз'язджаюцца дзяліць усю маёмасць»... «...Арандатар прасіў А. Луцкевіча «зрабіць уплыў, штоб дайсці да толку, а ў праціўным выпадку прашу сваю часьць прадаць мне». Ліст скончаны такімі словамі: «Астаюся зь вялікай павагай да Вас. Антон Іванавіч, і з надзеяй, што паможаце. Сьцеражы Вас Бог ад арэндатар, якім мосьціца недалёкі сусед pan Targoński».

Як бачым, і з арандатарам у Луцкевіча былі добрыя адносіны. Але прадаць сваю долю фальварка ён не меў права да таго часу, пакуль жывая сястра ягонай маці — Ядвіга Русецкая. Такая была воля В. З. Лычкоўскага. Такім чынам, маёнтак быў супольным уладаннем. Карыстаючы з гэтага, А. Луцкевіч зрабіў усё залежнае ад яго, каб беларускага мужыка Андрэя Грышаля не сагналі з зямлі, каб арандатарам не стаў паляк Таргоньскі. Пры пілсудчыне для яго—сацыял-дэмакрата, беларуса, — гэта было справай гонару, прынцыпу.

●

З чаго жыў А. Луцкевіч! Мусіць, чытачам будзе цікава даведацца, што адзін з фактычных кіраўнікоў «Нашай Нівы» і Беларускага выдавецкага таварыства не атрымліваў за гэта ні капейкі. Грошы ён меў ад Першага Узаемнага Таварыства Страхавання Жыцця (Первое Взаимное Общество Страхования Жизни). Спачатку працаваў у Віленскай акрузе гэтага таварыства, а потым, пасля перайменавання, — у Літоўска-Беларускай акрузе (спр. 305, арк. 3). У час нямецкай акупацыі А. Луцкевіч узначальваў Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Існавалі таксама літоўскае і польскае таварыствы. Гэтыя арганізацыі займаліся гуманітарнымі справамі, працавалі зусім легальна. Кіраўнікі гэтых арганізацый атрымлівалі зарплату. З дакументаў відаць, што А. Луцкевіч атрымліваў 300 марак за месяц. Гэты даход даваў яму магчымасць бясплатна працаваць на беларускіх настаўніцкіх курсах, у іншых беларускіх установах і арганізацыях.

Праца ў Першым Узаемным Таварыстве Страхавання Жыцця была больш-менш прыбытковаю. Да гэтага дадамо ганарары з рускіх, польскіх і ўкраінскіх выданняў (беларускія—практычна ўсе — былі безганарарныя). На што ж траціў А. Луцкевіч зробленыя грошы? Сям'і ў яго не было. Таму купляў кнігі, карціны.

Мы ўсе ведаем, што Янка Купала працаваў у бібліятэцы Даніловіча. Інакш гэтая ўстанова называлася бібліятэкай-чытальняй «Знание». У 1904 годзе яе адчыніў Ізраіль Немзер. Кампаньёнам Немзера быў Барыс Даніловіч. У канцы 1906 года Даніловіч выкупіў у Немзера ягоную частку і стаў паўнапраўным уладальнікам бібліятэкі-чытальні. У 1911 годзе ў справу ўступіў А. Луцкевіч, а 1914 годзе купіў Даніловічаву частку. У 1923 годзе Б. Даніловіч пацвердзіў права А. Луцкевіча на бібліятэку ў народнага натарыуса 5-ай камеры г. Адэсы (спр. 310, арк. 7). Гэтае кнігасховішча стала складовай часткаю Беларускага музея імя Івана Луцкевіча пры Беларускім навуковым таварыстве. (Нагадаю, што Музей арганізаваў і да 1939 года ўзначальваў А. Луцкевіч).

У 1919 годзе А. Луцкевіч ажаніўся. Яго жонка — у дзявоцтве Зоф'я Абрамовіч — была педыятрам. Выспускніца Сарбоны, яна была, думаю, спецыялістам высокай кваліфікацыі. У матэрыялах фонду (спр. 280, арк. 18) можна знайсці рахунак, які сведчыць, што доктар Луцкевіч выпісвала медыцынскую літаратуру з Нямеччыны. Рахунак датаваны 15 чэрвеня 1927 года. Але ў тым самым фондзе (спр. 320, арк. 40) ляжыць чарнавік заявы ў бюро працы пры Яўрэйскім гуртку лекараў у Вільні, з якога вынікае, што д-р Луцкевіч была беспрацоўнаю. Вось поўны тэкст заявы:

«Состоя в течении многих лет членом Кружка, я неоднократно обращалась в Бюро Труда с просьбой о предоставлении мне работы каковой не имею. Обращения все мои остались безрезультатными. Т. к. в настоящее время открывается вакансия на место врача станции опеки над матерью и ребенком в Больничной Кассе (Kasa Chorych), прошу выставить мою кандидатуру на это место».

Жонка Луцкевіча была з яўрэйскай хрысціянскай сям'і, якая цалкам успрыняла рускую культуру. Магчыма, гэта і было прычынай яе беспрацоўя. Беспрацоўе было адной з прычын яе трагічнай смерці.

Луцкевіч утрымліваў жонку і двух сыноў. Грошай не хапала. Матэрыяльнае становішча пагоршылася пасля яго арышту і суда. У справе 280 (арк. 16) мы чытаем, што ў 1928 годзе А. Луцкевіч праз пасрэдніка прадаваў карціну са сваёй калекцыі. Пасля смерці жонкі ў 1929 годзе ён прадаваў старыя англійскія гравюры (спр. 306, арк. 1). У 1930 годзе яго выключылі з пайшчыкаў Беларускага кааператыўнага банку, таму што ён не здолеў унесці свой пай (спр. 313, арк. 3).

Застаўшыся ўдаўцом, А. Луцкевіч сам выхоўваў і вучыў сыноў. Кошт навучання ў Віленскай беларускай гімназіі быў немалы: у 1934—1935 годзе, напрыклад, за адно паўгоддзе трэба было заплаціць 127 злотых 50 грошаў (спр. 318, арк. 4—5). Нагадаю, што пуд жыта каштаваў два злотыя.

Пэўны даход у 20-я гады А. Луцкевіч меў з выкладчыцкае працы ў Віленскай беларускай гімназіі. Але ў 1931 годзе яго звольнілі.

Да пытання аб прычыне і механізме звальнення А. Луцкевіча мы яшчэ вернемся. А цяпер прашу звярнуць увагу на наступны дакумент — на чарнавік яго ліста ў Дзяржаўную экзаменацыйную камісію для кандыдатаў у настаўнікі сярэдніх школ (спр. 315, арк. 1). 26 студзеня 1932 года А. Луцкевіч пісаў: «...на працягу пяцёх месяцаў беспрацоўя я вымушаны быў на ўтрыманне сваё і двух дзяцей вычарпаць свае зберажэнні і пазбыцца самых каштоўных рэчаў».

**(Працяг на стар. 14).**

---

[1] Тут і далей будзе называцца толькі нумар справы з гэтага фонду, а таксама нумар аркуша.

[2] Падрабязней пра бацьку А. Луцкевіча напісаў Генадзь Каханоўскі («ЛіМ», 2 лістапада 1990 г.). Дадам адно: аўтар памыляецца, калі піша, што Я. Б. Луцкевіч даслужыўся да чына штабс-капітана; на самай справе ён падняўся на адну ступеньку вышэй — быў капітанам, што, дарэчы, засведчана на надмагільным помніку.

# МАЁНТАК

(Пачатак на стар. 13).

Пазней Віленская беларуская гімназія стала філіяй дзяржаўнай гімназіі імя Ю. Славацкага. Луцкевіч, які жыў на ганарары, у 1933—1934 школьным годзе быў вызвалены ад платы за навучэнне аднаго з сыноў, а за вучобу другога сына плаціў 75 працэнтаў. З чарнавіка просьбы да педагагічнай рады (спр. 306, арк. 12) можна даведацца, што заробкі яго ў 1934 годзе зменшыліся на адну трэць. Таму А. Луцкевіч прасіў «звольніць цалком ад платы за навуку сына майго Юрыя і зьменшыць плату сыну Лявону прынамся да палавіны».

●

Караю для Луцкевічаў былі сухоты, хваробы дыхальных шляхоў. Інфармацыю на гэты конт мы атрымліваем з лістоў Эміліі (Мілі) Шабуні, сястры А. Луцкевіча, якая жыла ў Менску (пісьмы захоўваюцца ў справах 295—296). Хварэлі сама Міля, яе дачка Маня, сын Дзюнік (Эдвард)[3]. З трывогай паведамляе Міля, што яе другая дачка — Яня[4] — кашляе, што ў зяця — Вадзіма — няважныя лёгкія. Пра свайго мужа яна піша: «Алесь страшэнна выглядае, можна смела класці ў труну». З 17 снежня 1926 года сястрою і яе сям'ёю апекаваўся доктар Сцяпан Луцкевіч.

Сям'я Эміліі жыла цяжка. Муж яе — Алесь Шабуня — працу ў палітэхнікуме спалучаў з выкладаннем у чыгуначнай школе. Напісаў па-беларуску падручнік. А цэны тым часам раслі. (Успомнім лісты М. Гарэцкага з Вяткі: класік таксама пісаў аб росце цэн у 1932 годзе). Гэта ў самы просты спосаб было выклікана калектывізацыяй. Мы ведаем пра арганізаваны голад на Украіне і Расіі. Але яшчэ не пішам пра дэфіцыт харчоў на Беларусі. Эмілія Шабуня паведамляла, што ў 1932 годзе ў Менску практычна нельга было купіць мукі — хіба што ў «торгсине». Луцкевіч пасылае грошы сястры. 22 лістапада 1932 года Эмілія піша: «Грошы ўчора атрымала і спяшаю сярдэчна Табе падзякаваць ад свайго імя і імя Дзюніка. Ліста Твайго не аддалі, урадовец сказаў, што нікому не даюць (...) Прыкра мне вельмі, што Ты пакрыўдзіў сябе, бо і Табе (грошы) патрэбныя. Заўтра куплю мукі ў «торгсине», на долары ці золата каштуе 3 р. 52 к. Будзе гэта для мяне вялікая падмога». У лісце за 27 студзеня 1933 года сястра жаліцца на кепскае харчаванне... (Мы ведаем, што значыць харчаванне пры хваробах лёгкіх і бронхаў). Прасіла Эміля дапамогі ў сястры Станіславы, якая жыла ў Варшаве (ліст на 15 ліпеня 1932 года). А Станіславе ў свой час дапамагаў Антон...

Не толькі сваякі прасілі дапамогі у А. Луцкевіча. У справе 280 (арк. 1) чытаем ліст Міхася Машары за 4 кастрычніка 1930 года. «Вельмі Паважаны Дзядзька Луцкевіч! — пісаў ён. — Я надта ў крытычных абставінах. Дазарэзу трэ 200 зл.» Паэт нядаўна вярнуўся з польскага астрогу — хворы і голы. Гаспадарка занядбаная, лячыцца і апрануцца трэба... Вось і «залез у доўг». Не ведаю, ці дапамог Луцкевіч М. Машару, але на лісце ягонаю рукою пазначана: «Адпісана 9/X. 30».

...Пра «маёнтак» А. Луцкевіча можна было б напісаць і болей, ды, мяркую, і гэтага дастаткова, каб уявіць, якім багаццем ён быў, у якой раскошы жыў. Між тым Л. Абэцэдарскі на поўным сур'ёзе даводзіў («Коммунист Белоруссии», 1963, № 5), што браты Луцкевічы былі памешчыкамі, ледзь не крывапіўцамі. А колькі гадоў назад другі гісторык, заявіўшы, што ён піша «всю правду», сцвярджаў, што А. Луцкевіч хацеў, каб зямля належала панам, а бедныя заставаліся беднымі. Ні Л. Абэцэдарскі, ні гэты — маладзейшы — гісторык дакументаў у Цэнтральнай бібліятэцы Літоўскай Акадэміі навук не чыталі: іхніх подпісаў на папках я не бачыў. Значыць, такая ў нас гістарычная навука...

(Працяг будзе).

[3] Нью-Йоркскі «Беларус» (№ 370) паведаміў, што Э. Шабуня памёр 24 мая 1990 года ў Нью-Йорку. Ці пакінуў ён якія дакументы, успаміны?

[4] Яніна — бабка вядомага беларускага спевака Багдана Андрусішына (Данчыка).

Уладзімір ВАСІЛЕВІЧ, Ігар КАРАШЧАНКА

# ДА ЗЕМЛЯКОЎ, ЗА 4000 КІЛАМЕТРАЎ...

## Сібірскі дзённік

«Бывай, Тынгыза!» — гаворым мы, выходзячы з вёскі, дзе прабылі ўсяго толькі суткі і палюбілі гэты куточак і яе людзей на ўсё жыццё. Апошні раз глядзім на старое распяцце на могілках, перавезенае сюды разам з крыжам самымі першымі перасяленцамі 100 год назад, і накіроўваемся ў Каўбасу. Праз некаторы час бачым, як насустрач нам едзе з Каўбасы тынгызінская паштарка на возе з плеценым корабам (ці не з Беларусі прывезена была гэта традыцыя пляцення з лазы — такія ж плеценыя «карэты» можна пабачыць у нас).

— Што, пехатою?

— Ды такая наша работа...

«Не пыльная», як сказаў аднаму з нас нейкі дзяцюк на нашых беларускіх дарогах. Вось ужо што-што, але якраз «пыльная»! Глянуў бы ён на сібірскія грунтавыя дарогі! Калі няма дажджу, то нават адзін матацыкл здольны падняць такую хвалю пылу, што цэлы дзень потым не адкашляешся.

І вось зноў учарашняя Каўбаса. Неяк сама сабою забываецца смачная, апетытная назва, калі бачыш пры ўваходзе разваленыя кароўнікі, на якіх замест страхі рэбрынамі тырчаць аголеныя кроквы, кінутую немаведама кім ледзь не пасярод дарогі дабітую ржавую тэхніку, здратаваную, загубленую зямлю і бур'ян у чалавечы рост. Людзі тут ужо, здаецца, не заўважаюць уласнай неахайнасці: патрэба ў харастве, чысціні, утульнасці нібыта цалкам атрафіравана. Такой страшэннай безгаспадарлівасці, разрухі не ўбачыш па тэлевізары, не прачытаеш у газеце нават сёння, калі ўсе да ўсяго прызвычаіліся, з усім звыкліся. А на плошчы перад сельскім Саветам, як атавізм мінулых дзесяцігоддзяў, раве са слупа на ўсю акругу гучнагаварыльнік. Як потым высветлілася, калгас «Новый мир» (!) — сярод адсталых, і дзесьці наверсе ўжо задумана згарнуць гэтую бесперспектыўную гаспадарку. Лёгка сказаць — згарнуць: двароў у Каўбасе — за сотню!

Але для Сібіры развал вёсак, а затым і знікненне іх з твару зямлі — з'ява вельмі звычайная. У адных — жыхары разбягаюцца, пакідаючы пасля сябе ашчэраныя, напаўразбураныя хаты, спустошаныя сядзібы, занядбаныя, нібыта сметнікі, могільнікі (дзе ўжо там «любовь к отеческим гробам»...). У другіх вёсках — людзі апускаюцца, співаюцца ад безнадзейнасці, трацяць чалавечы воблік незваротна. Тут пануе разруха, бруд, бескультур'е, мат. Змрочная антыўтопія. Кінуты, пракляты Богам край. Давялося на ўласныя вочы пабачыць і адны і другія вёскі...

Па праўдзе кажучы, сённяшняй Каўбасе яшчэ далёка да такога стану. Але ці не па тых самых рэйках коціцца і яна, каб нарэшце апынуцца ў поўнай безвыходнасці? Уладкоўваемся ў загадчыка клуба Мікалая Сяргеевіча Макарэвіча. Некалькі год назад аўдавеў і ўзяў таксама ўдаву з Кыштоўкі. У яе шасцёра дзяцей, у яго «ўсяго» чацвёра, усе павырасталі. А яны сышліся ды і жывуць сабе. Мікалай удакладняе, ці сапраўды яго прозвішча беларускае. Пацвярджаем. Пытаецца, а можа, яму пашукаць на Беларусі далёкіх сваякоў з такім прозвішчам? Адказваем, што тых Макарэвічаў і на той жа Магілёўшчыне, адкуль яго продкі, у нас сотні і сотні! Гэта неяк адразу супакойвае яго.

Калі параўнаць карту Кыштоўскага раёна з картай Беларусі, то можна пераканацца, што «віцебская» Тынгыза і «магілёўская» Каўбаса размешчаны ў адносінах адна да аднае гэтаксама, як Віцебшчына і Магілёўшчына. Своеасаблівая мікра-Беларусь. Здавалася б, хоць і побач Каўбаса, але ўжо зусім іншы каларыт, іншы свет. І ў гэтым мы пераконваемся, калі прыпыняемся ля брамы Ганны Піліпаўны Дзенісенкі, якую нам назвалі як добрую знаўцу старасветчыны. Сама яна з 1904 года, але на выгляд ёй больш як 70 не дасі: рухавая, разважлівая, вострая на слова. Нарадзілася ў Сібіры, але бацькі былі «з-пад Прапольска» (вось дзе адгукнуўся колішні Прапойск, а сёння шматпакутны ад радыяцыі Слаўгарад...). Перад тым як паспяваць для нас вынесла на вуліцу вышыты яшчэ да вайны ручнік, на якім, нібы на праслаўленым Максімам Багдановічам Слуцкім поясе, расцвіў «цвяток радзімы васілька». Падаравала нам яго для Музея старажытнабеларускай культуры, не шкадуючы, разам з кавалкам вытканага ёю палатна «ў елачку». Так у гэтай экспедыцыі быў пакладзены пачатак збору прадметаў народнага мастацтва беларусаў-перасяленцаў, якіх яшчэ не маюць нашы музеі.

Мова ў Каўбасе чыста магілёўская, дзе адбіліся ў вымаўленні асаблівасці то аднаго, то другога яе куточка: «сянні», «мамычка», «ряка». А з мовы суседніх тынгызінцаў і іншых «віцебскіх» мясцовый падсмейваюцца дражнілкаю: «Каіць, каіць — у пругоне карова рыкаіць». Ганна Піліпаўна сама свядома прызнае, што гаворыць па-беларуску, хоць запісана, як і ўсе, рускаю. Адзін тут чалавек толькі пісаўся беларусам, прычым не з надта старых, але ўжо два гады, як яго няма на свеце. Распытваем і ў суседак пра рознае рукадзелле, ткацтва, і вось ужо з розных двароў нясуць нам абрусы, посцілкі, набожнікі, але ўжо зробленыя на сучасны лад і густ. Тое, з чым уладальніцы не могуць расстацца, фатаграфуем, старанна распраўляючы малюнак вышывак і карункі.

У экспедыцыі мы ўдвох амаль не разлучаемся, аднак абставіны вымушаюць часам папрацаваць і паасобку. Пакуль фалькларыст гутарыць на вуліцы з жанчынамі, этнограф, пачуўшы, што тут непадалёк жыве цымбаліст, адпраўляецца да яго. Пры з'яўленні чужых людзей на падворку ў вачах у музыканта напачатку ўзнікла насцярожанасць, аднак яна хутка растала, калі Міхаіл Іванавіч Шведзянкоў дазнаўся пра мэту наведвання. Спачатку ён вынес цымбалы, зробленыя «з кедрача» і сталок для зручнасці фатаграфавання. Калі ж папрасілі яго што-небудзь найграць, ён зноў на хвіліну знік у хаце і выйшаў адтуль у светлым капелюшы. Сеў, звыкла паклаўшы перад сабою цымбалы, і зазвінелі, разнесліся навокал пералівы беларускіх народных мелодый. Калі сцішыліся апошнія гукі, Міхаіл Іванавіч распавёў пра гісторыю свайго інструмента. Яшчэ 13-гадовым хлопцам, у 1942 годзе, зрабіў ён іх па ўзору цымбалаў тынгызінскіх музыкаў Людвіга Капылова і Пятра Васёхі (ад апошняга і навучыўся іграць). Увесь час гаспадар узрушана паўтараў: «Цяпер пра мае цымбалы будуць ведаць і на Беларусі...».

А тым часам фалькларыст ідзе разам са спявачкамі ў дом загадчыка клуба. Збіраецца надта вялікая грамада, у такіх выпадках, як правіла, ладу няма: тая хоча спяваць адно, другая — іншае, трэцяя забылася, чацвёртая зусім не ведае словы, але жадае папрысутнічаць. І ўвесь дарагі час ідзе на спрэчкі і высвятленне адносін. «Наша» бабуля, адчуваецца, ведае глыбінны пласт фальклору, але маладзейшыя ўвесь час стараюцца «цягнуць коўдру» на сябе, настойваючы на сваім, пазнейшым і геаграфічна аддаленым ад нашых зацікаўленняў рэпертуары. Ладу няма ніякага! У рэшце рэшт давялося зрабіць тое, чаго ніколі не дазваляеш сабе пры запісванні, баючыся напалохаць, адштурхнуць ад сябе інфарматара: давялося павысіць голас і сказаць, што нам лепш ведаць, што трэба спяваць, а што не трэба. І ў далейшым ужо стараліся браць песні менавіта з «нашай» бабулі. Маладзейшыя, адчуўшы нашу незацікаўленасць іхнімі песнямі, патроху пачалі пакідаць кампанію. Хацелі забраць з сабою і Ганну Піліпаўну, ды мы прытрымалі, бо надта ж добра «ішлі» ад яе веснавыя, жніўныя і асабліва вясельныя («свадзёбныя», як кажуць тут) песні. Пад канец выпадкова пацікавіліся, ці не памятае яна часам якіх-небудзь даўнейшых беларускіх загадак. І яна сходу выдала нам дзесятка паўтара такіх, што далёка не ўсе мы, паламаўшы галовы, здолелі разгадаць. Як і ў Тынгызе, пераконваемся, што каб выбраць запас фальклорных ведаў у Каўбасе, трэба сядзець тут не адзін дзень.

Пасля гасціннай ночы ў доме загадчыка клуба, ледзь толькі развіднела, на маршрутным «ПАЗіку» — адзіным на суткі — выехалі ў родную нам ужо Кыштоўку. З гасцініцы, якую цяпер успрымаем як свой дом, адразу пайшлі на Тару асвяжыцца і памыць нашы запыленыя кашулі. А потым на цэлы дзень заселі за расшыфроўку сабранага. Час ад часу адскокваем то паабедаць, то на перагаворны пункт (скантактавацца з украінскай групай, ці варта нам, беларусам, ехаць потым разам з імі ў Алтайскі край, дзе, па словах, таксама ёсць перасяленцы), то да шаўца з нечакана падраным басаножкам.

Назаўтра намецілі яшчэ адну далёкую вёску — Круціху, на паўночны ўсход ад Кыштоўкі. У выканкоме даведваемся, што машына, на якой збіраліся нас туды падкінуць, зламалася. Бліжэйшы рэйсавы аўтобус у той бок пойдзе толькі заўтра, у другой палове дня. Але без справы не сядзім: трэба, пакуль новымі ўражаннямі не засланіліся папярэднія, тэрмінова перавесці наш скорапіс у чыстыя сшыткі, каб пасля можна было іх прачытаць.

Нарэшце дазваньваемся ў Кулунду, у раённы аддзел культуры, куды павінны прыехаць нашы ўкраінскія калегі, і даведваемся, што ў адрозненне ад кампактных украінскіх пасяленняў беларускіх такіх — няма. У гэту інфармацыю трэба паверыць, таму што паведамляе яе па тэлефоне дачка беларускіх перасяленцаў 1940 года. Значыць, Алтай, дзе так марылася пабываць, мы не наведаем, паедзем па іншых «беларускіх зонах» Новасібірскай вобласці.



Вёска Каўбаса. Іграе Міхаіл Шведзянкоў.

Выйшла раённая газета «Правда Севера» з нашым зваротам «Белорусы, отзовитесь!» Ды толькі ці адгукнуцца, асабліва маладзейшыя, якія і не прывыклі адчуваць сябе беларусамі? Наогул жа з газетай у нас усталяваўся добры кантакт. Для нашых раз'ездаў нам пазычылі рэдакцыйны фотаапарат і папрасілі, калі магчыма, напісаць больш ці менш падрабязна пра нашы вандроўкі па раёне.

У Круціху прыязджаем увечары, калі ў сельсавеце ўжо нікога з уладаў няма, толькі стукае на машынцы адзінокая жанчына. Нарэшце пасля яе званка з'яўляецца пахмуры старшыня, які не мае ніякага жадання намі займацца, нягледзячы на папярэдні званок з райвыканкома. Да загадаў начальства тут не надта прыслухоўваюцца, ды і яно сюды рэдка завітвае. Чаго ж здзіўляцца — ад Круціхі да абласнога цэнтра ажно 585 кіламетраў! А далей за Круціхаю ўжо няма ніякага жытла — на сотні кіламетраў разлегліся балоты («тапіны» — кажуць тут старыя людзі) і тайга, дзе і ў нашы дні неасцярожнага чалавека можа задраць мядзведзь. Ды і з раёна ў такі дзень, як сёння, калі хмары вылілі на

Працяг. Пачатак у мінулым нумары.

СПРЭЧКІ, ПАЛЕМІКА

# Голас маладой нацыі

У СВАІМ артыкуле «Маякі і міражы» (за 7. 12. 1990 г.) У. Казбярук падымае складанае пытанне: ці лічыў сябе беларусам Кастусь Каліноўскі? Ці думаў ён пра Беларусь як пра нешта адметнае, нацыянальна самабытнае? І далей паведамляе, што гэтага пацвярджэння ён не знайшоў у «Мужыцкай праўдзе», іншых выданнях, рэдагаваных Каліноўскім.

Так, сапраўды, на старонках «Мужыцкай праўды», «Лістоў з-пад шыбеніцы», польскай газеты «Choraqiw swobody» Кастусь Каліноўскі ніколі не называе сябе беларусам. Але цікава даведацца, па якой прычыне гэта адбылося. На думку аўтара артыкула, Каліноўскі ніколі не лічыў сябе беларусам, а звяртаўся да народа на ягонай роднай мове толькі дзеля тактычных мэтаў. Болей таго, У. Казбярук цытуе радкі са згаданай польскай газеты ад 1 студзеня 1863 года (рэдактарам першага нумара быў сам Каліноўскі), дзе той нават не ставіў пытання аб адметнасці альбо незалежнасці Беларусі і Літвы, а лічыў гэтыя землі арганічнай непадзельнай часткай Польшчы ў межах 1772 года. Так, сур'ёзныя абвінавачанні ў адрас героя паўстання 1863—1864 гг. І таму трэба сур'ёзна, з веданнем справы разабрацца ў гэтым пытанні. Перш патрэбна ведаць, што ўяўлялі сабой беларусы ў тыя часы.

Як вядома, у этнаграфіі існуе тэрмін «этнас», які фактычна эквівалентны слову «народ». Вось як вызначае гэты тэрмін вядомы этнограф Ю. У. Брамлей у сваёй кнізе «Очерки теории этноса» (Масква, 1983): «Этнас — гэта гістарычна складзеная на пэўнай тэрыторыі ўстойлівая сукупнасць людзей, якія валодаюць не толькі агульнымі рысамі, але і адносна стабільнымі асаблівасцямі культуры (уключаючы мову) і псіхікі, а таксама ўсведамленнем свайго адзінства і адрознення ад усіх іншых падобных утварэнняў (самасвядомасцю), фіксаванага ў саманазве (этноніме)».

Гісторыя кожнага этнасу пачынаецца з часу яго фарміравання — этнагенезу і ахоплівае такія этнасацыяльныя арганізмы, як плямёны, народнасць, нацыя, якія папярэднічаюць адзін другому, але разам з гэтым складаюць і непарушную дыялектычную еднасць.

А цяпер давайце глянем, што ўяўляў сабой беларускі этнас (народ) у 50—60-я гг. мінулага стагоддзя. Гэты час — час пераходу ад феадальнай фармацыі да капіталістычнай, г. зн. і час пераходу ад народнасці да нацыі. Эканамічная агульнасць паміж часткамі нашага краю была слабая, чаму ў значнай ступені «садзейнічалі» феадальна-прыгонніцкія перажыткі, адсутнасць прамысловасці і неразвітасць таварна-грашовых адносін. Ды і тэрыторыя пражывання беларускага народа называлася па-рознаму: Віцебская, Смаленская, Магілёўская, усходняя частка Менскай губерняў — Беларусь; астатнія паветы Менскай, Віленская, Гарадзенская губерні — Літва. У яшчэ меншай ступені кансалідацыйныя тэндэнцыі выяўляліся ў працэсе фарміравання этнічнай самасвядомасці беларусаў. Апошняя, як вядома, перш за ўсё фіксуецца ў этнонімах. І тут была вялікая стракатасць. Ва ўсходніх частках Бацькаўшчыны была шырока распаўсюджана назва «беларус». На Віленшчыне, Гарадзеншчыне, у заходніх паветах Меншчыны поруч з найбольш пашыранай назвай «ліцвіны» ўжываліся назвы «рускія», «русіны», дзе-нідзе і «беларусы», «палешукі». І хоць мова, на якой размаўлялі продкі, лічылася ўжо ў тыя часы беларускаю, у тых умовах Каліноўскаму было вельмі цяжка акрэсліць сваю нацыянальную прыналежнасць, бо нацыя беларуская яшчэ не склалася. Але ж у народзе, які жыў у Літве і Беларусі (тагачасныя назвы), ён бачыў адзін народ, да якога і звяртаўся на ягонай роднай мове, называючы яе часта «мужыцкай». Болей таго, Кастусь Каліноўскі лічыў сябе часткай гэтага народа. Напрыклад, у яго-ных «Лістах з-пад шыбеніцы» ёсць такія радкі: «Браты мае, мужычкі родныя! З-пад шыбеніцы царскай прыходзіцца мне вам пісаць, і, можа, апошні раз. Прыкра пакінуць зямлю родную і цябе, родны мой народ. Застогнуць грудзі, забаліць сэрца, але не шкада загінуць за тваю праўду».

Так мог пісаць толькі сапраўдны патрыёт свайго народа, менавіта мужыцкага народа. Бо 90% яго, г. з. «беларусаў», «ліцвінаў» і «палешукоў», складалі сяляне. Пасля Люблінскай (1569 г.) і Барасцейскай уніі (1596 г.) спачатку арыстакратыя і шляхта, а потым ужо заможная частка гараджан у пагоні за прывілеямі і тытуламі пакінула свой народ і спольшчылася. Толькі сялянства ды часткова бяднейшыя гарадскія пласты насельніцтва захавалі адданасць, вернасць роднай мове, культуры, звычаям і традыцыям, нягледзячы на паланізацыю, а потым і русіфікацыю. Знаходзячыся паміж накавадлам і молатам, народ выстаяў, адрадзіўся, як тая міфічная птушка Фенікс, літаральна з попелу. І рухаючай сілай гэтага працэсу было сялянства, якое царскія чыноўнікі і польскія паны не лічылі здатным да гістарычнай дзейнасці.

У паўстанні 1863 — 64 гг. беларускі народ упершыню, можа быць, за доўгія дзесяцігоддзі якраз выявіў свой нацыянальны патэнцыял, абараніў свой гонар і сумленне. Падзеі гэтага часу—гэта вытокі беларускага Адраджэння, якое разальецца паўнаводнаю ракою ў канцы XIX — пачатку XX ст. І Кастусь Каліноўскі, які выхоўваўся сярод сялян, бачыў іхнія турботы і гора, не мог не стаць на абарону сялянскай годнасці, не ўсвядоміць свой агульны з гэтым мужыцкім народам лёс.

Убачыўшы «мужыцкасць» Беларусі і Літвы, змагар за народную волю зразумеў і адметнасць, самабытнасць гэтых земляў у адносінах да Польшчы. Так, часам па старой звычцы ён называе колішнюю тэрыторыю Рэчы Паспалітай Польшчаю. Але ў XVII — XIX стст. гэтыя назвы былі фактычна раўназначныя ў выніку паланізацыі вышэйшых пластоў насельніцтва ў Вялікім княстве Літоўскім. Тым не менш княства фармальна захавала сваю дзяржаўнасць ажно да III падзелу Рэчы Паспалітай, г. зн. 1795 года, маючы свой Сойм, органы дзяржаўнай улады, войска, скарбніцу, уласную грашовую сістэму, мытніцы, судовую сістэму.

Нацыянальна-вызваленчы рух на польскіх, беларускіх, літоўскіх, украінскіх землях з канца XVIII ст. заўжды ішоў пад сцягам узнаўлення дзяржаўнасці колішняй Рэчы Паспалітай. І «літоўскае пытанне», г. зн. адраджэнне дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага ў складзе Рэчы Паспалітай, займала не апошняе месца, мела сваіх шчырых прыхільнікаў, напрыклад, графа Міхала Клеафаса Агінскага. Але з найвялікшай сілай «літоўскае пытанне» ўзнікла менавіта пад час паўстання 1863—64 гг. Тады пачаўся працэс кансалідацыі сучаснай беларускай нацыі, упершыню за доўгі час народ, прыдушаны гвалтам і галечай, вольна ўзняў сваю галаву, пачаў цярністы шлях з цямрэчы да сонца, каб у рэшце рэшт «людзьмі звацца».

Незразумела, як гэта У. Казбярук не заўважыў у друкаванай спадчыне К. Каліноўскага думкі пра самабытнасць, адметнасць Беларусі. Можна яму прыгадаць барацьбу, якую вёў Каліноўскі супраць тых шляхецкіх рэвалюцыянераў з Польшчы, якія патрабавалі непасрэднага ўключэння Вялікага княства Літоўскага ў склад Кароны, г. зн, Польшчы. Ён, у прыватнасці, выступіў супраць спробы Цэнтральнага Нацыянальнага Камітэта (ЦНК) змяніць назву Літоўскага камітэта на Выканаўчы Аддзел, патрабаваў, каб грашовыя сродкі Літоўскі камітэт выдаткоўваў на патрэбы паўстання самастойна. У якасці доказу можна прывесці яшчэ і ўспаміны Юзэфа Каэтана Яноўскага, члена варшаўскай рэвалюцыйнай арганізацыі, слыннага польскага патрыёта: «Каліноўскі быў адным з самых інтэлігентных у гэты час мужоў Літвы, адукаваны, чысты, поўны дабрачыннасці, розуму і энергіі. Абышоў пеша Літву і Беларусь, несучы ў народ полымя любові да Айчыны... Не хацеў мець ніякіх сувязей са шляхтай, а абапіраўся толькі на народ.

Сувязь Літвы (г. зн. ВКЛ) з Польшчай разумеў толькі як федэратыўную — з поўнай незалежнасцю Літвы. Не прызнаваў цалкам улады Цэнтральнага камітэта, не хацеў прымаць адтуль ніякіх загадаў альбо даручэнняў. Гэта пазіцыя Каліноўскага, якую не ўсе ў камітэце поўнасцю падзялялі, была падставай для непаразуменняў у адносінах з Цэнтральным камітэтам. Апошні, тым не менш, саступіў, прызнаўшы за Літоўскім камітэтам пэўную самастойнасць у кіраўніцтве арганізацыяй, а таксама назначэнні ўлад, вызначэнні тэрміна паўстання...» Так піша відавочца падзей, які лепей за ўсіх нас ведаў асобу Каліноўскага і яго погляды. Кастусь Каліноўскі бачыў адметнасць ад Польшчы ВКЛ, як бачыў і адрозненне «беларусаў» і «ліцвінаў» ад этнічных палякаў. Ён лічыў, што інтарэсы беларускага народа могуць рэалізавацца ў рамках адраджэння Вялікага княства Літоўскага. Гэтая ідэя была вельмі жывучая і папулярная нават у пачатку нашага стагоддзя. Успомнім, што яшчэ ў 1915 годзе створаная ў Вільні Канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага дамагалася незалежнасці Беларусі і Літвы ў складзе адноўленага ВКЛ. Толькі ў 1918 годзе з'явілася ідэя незалежнасці Беларусі ў яе этнаграфічных межах.



Кастусь КАЛІНОЎСКІ. Скульптурны партрэт У. ВЕРАБ'ЕВА.

Можна згадзіцца з У. Казберуком у тым, што беларуская нацыянальная ідэя ў Кастуся Каліноўскага цалкам яшчэ не аформілася. Але не таму, што ён быў ледзь не прадстаўніком іншага народа, а таму, што беларуская нацыя яшчэ не паспела канчаткова скласціся, яна толькі нараджалася. Тым не менш, нацыянальная ідэя, відаць, зараджалася ў змагара, калі ён пісаў у «Лістах з-пад шыбеніцы»: «..Прыміце за гэта нашу падзяку, а ліст аддрукуйце, каб ведаў свет божы, як мужычкі—беларусы (падкрэслена мною.—У. К.) глядзяць на маскалёў і паўстанне польскае, чаго яны хочуць і чаго сваёй сілай дамагацца будуць...» Голас Каліноўскага з'яўляўся голасам маладой нацыі, якая толькі яшчэ выходзіла на шырокія абсягі гістарычнай дзейнасці.

**Уладзімір КАНАНОВІЧ,**
**студэнт-гісторык.**

г. Гродна.

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### ПЕРШЫ БЛІНЕЦ—УДАЎСЯ!

Прыйшоў да чытача першы нумар газеты Беларускага дзіцячага фонду «Дзеці і мы», выпушчаны тыражом 50 тысяч асобнікаў. Паколькі ў рэдакцыі працуюць два былыя лімаўцы (рэдактарам—У. Ягоўдзік, намеснікам рэдактара—В. Лапцік), у нашым калектыве асабліва прыдзірліва знаёміліся з выданнем і нарэшце з радасцю для сябе засведчылі: лімаўцы засталіся лімаўцамі...

Не пакіне абыякавым артыкул Васіля Віткі «Боль і сорам» («Замест прывітання»), змястоўным атрымаўся і першы выпуск «Буслянкі», пазнавальныя інтэрв'ю нумара, насычаная інфармацыя.

Адным словам, першы блінец удаўся.

### У ГОСЦІ ДА ЗЕМЛЯКОЎ

Генрых Далідовіч, Алесь Камароўскі, Казімір Камейша і Мікола Маляўка з задавальненнем наведалі Шашкоўскую сярэднюю школу Стаўбцоўскага раёна. Прыхільна сустрэлі пісьменнікаў-землякоў настаўнікі і вучні. Пазней у Доме культуры мясцовага торфапрадпрыемства адбыўся літаратурны вечар, які завяршыўся канцэртам вучняў.

### УРОК У МУЗЕІ

У музеі Францішка Багушэвіча, што ў Кушлянах, пабывалі вучні дзесятых класаў Смаргонскай гарадской СШ № 4. Тут член Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, настаўніца роднай мовы і літаратуры М. Вярцінская правяла ўрок, прысвечаны жыццю і творчасці песняра.

Шмат цікавага расказаў старшакласнікам пра Багушэвіча дырэктар музея А. Жамойцін. Вучні пачулі расказ пра ўдзел паэта ў паўстанні, пра некаторыя моманты яго сяброўства з Янам Карловічам, які жыў у вёсцы Вішнева, і іншыя эпізоды яго жыцця.

**В. БАРЫСЕВІЧ.**

### СУПРАМАТ НЕ ГОРШ... СОПРОМАТА

Аддзяленне Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны створана ў Беларускім політэхнічным інстытуце. Старшынёй выбраны дацэнт кафедры філасофіі А. Шастаковіч, сакратаром—старшы выкладчык кафедры матэматыкі Т. Сухая. У склад таварыства ўвайшлі загадчыкі кафедраў матэматыкі М. Мікулік і У. Бубноў, кафедры фізікі У. Самайлюковіч, старшы выкладчык кафедры супрамату М. Шунько, выкладчыкі кафедраў грамадскіх навук, сакратар парткома Г. Вяршына і іншыя.

У планах—падрыхтоўка тэрміналагічных слоўнікаў, распрацоўка курсаў лекцый на беларускай мове, арганізацыя курсаў падрыхтоўкі беларускамоўных выкладчыкаў з мэтай паступовага пераводу ўсіх прадметаў на беларускую мову выкладання.

«ЛіМ»

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара —33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ —33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ —33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ —33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА—33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ —33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС, Юрась ЗАЛОСКА—33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ —33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.





Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12